*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

**№ 16 (4371)**

26 лютага 2019 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

АНОНС

## Суверенитет или чечевичная похлебка

*Современные вызовы носят объективный характер. Надо двигаться им навстречу, но для этого нужен хорошо выверенный национальный проект будущего, твердое понимание того, что такой проект может быть только групповым, то есть основанным на сложении усилий различных субъектов исторического процесса. Самое сложное в белорусском выборе – определить других участников проекта. Найти разумную формулу исторической кооперации с ними, при этом избежав «чечевичной» ловушки.*

*Решать эту задачу в одиночку власти вряд ли под силу, да и опасно. Участие в этом деле общественности, возможно, определяющий фактор. Именно поэтому наше общество нуждается в диалоге и дискуссии. Широкая дискуссия по поводу той истории, которая развернулась вокруг белорусского суверенитета, защита его – дело, безусловно, общественное, а не только правящей элиты.*

*Такой вывод делает в статье «Суверенитет или чечевичная похлебка» (3-я стр.)* **доктор философских наук, профессор Вячеслав Оргиш.**

***Читайте, размышляйте, включайтесь в дискуссию на страницах «Народной Воли»!***

С ПОЛИЧНЫМ!

## Директор «Лидсельмаша» за решеткой

Слухи о задержании **Юрия Вашкевича** ходили уже несколько недель. Однако на предприятии их не подтверждали. Говорили, директор болеет.

Вчера официальный представитель Следственного комитета Юлия Гончарова подтвердила: генеральный директор ОАО «Управляющая компания холдинга «Лидсельмаш» заключен под стражу, в отношении него возбуждено уголовное дело – за хищение путем злоупотребления служебными полномочиями.

В Лиде рассказывают, что якобы при участии Вашкевича продукция предприятия отгружалась по заниженным ценам.

Кстати, в аналогичных преступлениях обвиняют еще и директоров нескольких столичных предприятий, которые недавно также оказались под стражей.

Юрию Вашкевичу 57 лет.

Год назад на предприятии побывал экс-премьер-министр **Андрей Кобяков.** По его словам, тогда на предприятии была ситуация *«непростая, но не безвыходная».*

*«Более семи лет назад выполнена серьезная модернизация, создано новое производство по выпуску бытовых отопительных радиаторов, что позволило занять свою нишу в России и Украине*, – цитировала Кобякова пресса. – *Руководство предприятия ищет рынки сбыта своей традиционной продукции - оборудования для сельского хозяйства – в странах СНГ, на африканском континенте. Близки к подписанию контракта с Суданом по результатам визита главы государства. Идет конкретное наполнение экспортными контрактами договоренностей, достигнутых на высшем уровне. Руководство предприятия видит проблемы и, самое главное, способы их решения. Таким людям хочется помогать».*

Хвалил в свое время Вашкевича и Лукашенко. Он говорил, что ему *«нравится подход руководителя предприятия в тактическом плане».* Но подождем, что более конкретно скажет следствие, а возможно, и суд.

**Марина КОКТЫШ.**

БЛІЦ

*Падчас інтэрнэт-відэабрыфінгу старшыня Цэнтрвыбаркама Беларусі выказалася наконт змен у выбарчым заканадаўстве так: маўляў, напачатку трэба ўнесці змены ў Канстытуцыю, а таму сэнсу рэфармаваць Выбарчы кодэкс зараз няма.*

## Ваша рэакцыя на заяву Лідзіі Ярмошынай, што ніякіх змен у Выбарчым кодэксе не прадугледжваецца?

**Алег ГАЙДУКЕВІЧ, старшыня Ліберальна-дэмакратычнай партыі Беларусі:**

– Мяне не парадавалі словы старшыні Цэнтрвыбаркама, што рэформ у Выбарчым кодэксе не будзе. Маё цвёрдае перакананне – такія змены неабходны, і яны саспелі ўжо даўно.

Выбары неабходна праводзіць па партыйных спісах альбо хаця б па змешанай сістэме, бо аднамандатныя акругі ні ў адной краіне свету не забяспечваюць дастатковага прадстаўлення альтэрнатыўнага меркавання ў парламенце. Партыйныя спісы дазволяць набраць па 10–15 працэнтаў галасоў і мець сваіх людзей у Палаце прадстаўнікоў. Таму мы ніколі нічога не зменім, калі не рэфармуем Выбарчы кодэкс. І не абавязкова для гэтага патрэбны рэферэндум, бо тут пытанне дыскусійнае.

**Мікалай КАЗЛОЎ, старшыня Аб'яднанай дэмакратычнай партыі:**

– Заява Ярмошынай абсалютна прадказальная, і мне проста агідна ад таго, што ўлада ўсё вырашае за людзей. Беларусы, аказваецца, не маюць права на сапраўды празрыстыя выбары. Нам уже доўгі час вешаюць локшыну на вушы, і, як бачым, працэс працягнецца.

**Сяргей ЧЭРАЧЭНЬ, старшыня партыі «Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада»:**

– Я, натуральна, спадзяваўся на тое, што ўлады пойдуць на канструктыўны дыялог з грамадствам і змены ў выбарчы закон будуць унесены, але гэтага не адбылося. Аднак такі варыянт можна было спрагназаваць. Таму будзем працаваць у тых умовах, якія ёсць.

**Рыгор КАСТУСЁЎ, старшыня Партыі БНФ:**

– Да заявы старшыні Цэнтрвыбаркама паставіўся як да пустога гуку. Гэта ж не важна, будуць у нас змены ў Выбарчым кодэксе альбо іх не будзе. На маю думку, увесь сцэнарый прэзідэнцкай кампаніі распрацоўваецца ў высокіх кабінетах «Чырвонага дома». Вось, напрыклад, калі вырашаць прапусціць у Палату прадстаўнікоў некалькі дэпутатаў ад дэмакратычнай грамадскасці, то так і зробяць. І гэта не залежыць ні ад змен у Канстытуцыі, ні ад рэфармавання Выбарчага заканадаўства.

Тут трэба зразумець, што і пры сённяшнім заканадаўстве можна было б правесці празрыстыя выбары, калі б улады выконвалі гэтыя законы. А калі няма празрыстага падліку галасоў, то ніякія змены не дапамогуць.

**Ігар БАРЫСАЎ, старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада):**

– Каб выбары ў Беларусі былі празрыстыя, не абавязкова ўносіць змены ў Канстытуцыю. Дастаткова проста валявога палітычнага рашэння, каб выбарчы працэс праходзіў без фальсіфікацый. І сённяшні Выбарчы кодэкс дазваляе гэта зрабіць.

Іншая справа, што ў нас вельмі кульгае законапрымяняльная практыка. Усё робіцца для таго, каб прадстаўнікі апазіцыі не трапілі ці не прысутнічалі ва ўчастковых камісіях і не ўдзельнічалі ў падліку галасоў. Не адмяняецца практыка, калі людзей у добраахвотна-прымусовым парадку заганяюць на галасаванне.

Дарэчы, наша партыя ў мінулым годзе накіроўвала ў Цэнтрвыбаркам ліст са сваімі прапановамі па змене Выбарчага закона. Але нам таксама прыйшоў адказ, што гэта рэалізаваць на дадзены момант немагчыма без змен у Канстытуцыі.

Таму заява Ярмошынай – гэта не сенсацыя, а знак, што нічога ў правядзенні выбараў змяняцца не будзе.

**Сяргей ПАПКОЎ, намеснік старшыні Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі – БНФ:**

– Я не бачу тут прадмету для сур'ёзнага абмеркавання. Улада і са зменамі, і без змен зробіць так, як захоча. І тут нічога не залежыць ад жадання народа.

**Сяргей КАЛЯКІН, старшыня Беларускай партыі левых «Справядлівы свет»:**

– Гэта чаканая заява Ярмошынай, хаця, наколькі мне вядома, напярэдадні заяўлялася, што з прадстаўнікамі Еўрасаюза дасягнута нейкая дамоўленасць аб зменах у выбарчым законе Беларусі. І асабіста я спадзяваўся, што ў гэтым плане варта чакаць нейкіх змен, хаця на сур'ёзныя рэформы не разлічваў.

Але сумна, што насамрэч практычна нічога не зменіцца. Гэта значыць, што пакуль нават адноса свабодных выбараў у Беларусі мы не ўбачым. Яўны сігнал, што на выбарах усё будзе па-ранейшаму.

**Апытанне праводзіў Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ГУЧНАЯ СПРАВА

## Слова пракурора: аштрафаваць Марыну Золатаву на 25.500 рублёў

Суд над галоўным рэдактарам партала TUT.by Марынай Золатавай па «справе БЕЛТА» блізіцца да завяршэння. Прыгавор будзе абвешчаны 4 сакавіка, але, у прынцыпе, можна спрагназаваць яго вынік – учора дзяржаўны абвінаваўца Юлія Харчэйкіна ўнесла на разгляд суда прапанову прызнаць М.Золатаву вінаватай паводле ч.2 арт.425 КК (бяздзейнасць службовай асобы) і аштрафаваць яе на 1 тысячу базавых велічынь (25.500 рублёў). Пры гэтым, паводле слоў Ю.Харчэйкінай, уплываецца аблягчаючая акалічнасць – наяўнасць у Золатавай маналетняга дзіцяці.

Выступаючы падчас судовых спрэчак, дзяржабвінаваўца падкрэсліла, што галоўнаму рэдактару партала TUT.by Марыне Золатавай выстаўлена абвінавачанне ў тым, што яна, з'яўляючыся службовай асобай, фактычным кіраўніком творчага падраздзялення, не прыняла неабходных мер, каб перашкодзіць сваім падначаленым і іншым супрацоўнікам партала *«здзяйсняць несанкцыянаваны доступ да камп'ютарнай інфармацыі ў платным раздзеле дзяржаўнага агенцтва БЕЛТА».*

На раскрутку гучнай «справы БЕЛТА» следчай і судовай машынам спатрэбілася некалькі месяцаў. Былі іператрусы, і затрыманні, і самыя розныя каментары.

Падобна на тое, што некаму захацелася звычайны канфлікт двух інфармацыйных крыніц выкарыстаць з мэтай прыструніць TUT.by напярэдадні важнейшых палітычных кампаній. Але ж пры гэтым у вачах дэмакратычнай супольнасці БЕЛТА можа згубіць нешта большае ў параўнанні з тымі грашыма, якое агенцтва атрымае ад Марыны Золатавай (лічы – партала TUT.by) па прыгаворы суда.

**Яўген КАРПОВІЧ.**



Дзяржаўны абвінаваўца Юлія Харчэйкіна.


Марына Золатава ў атачэнні калег.

БЕЛАРУСЬ–ЕС

## Яшчэ на год…

*Савет ЕС працягнуў яшчэ на год, да 28 лютага 2020 года, абмежавальныя меры ў дачыненні да Беларусі, у прыватнасці эмбарга на пастаўкі зброі і тэхнікі, а таксама візавыя санкцыі супраць чатырох беларускіх грамадзян.*

Такое рашэнне прынята 25 лютага, інфармуе сайт Савета ЕС.

У паведамленні гаворыцца, што *«меры ўключаюць у сябе эмбарга на пастаўкі зброі і тэхнікі»*, якія могуць быць выкарыстаны для рэпрэсій унутры краіны, а таксама *«замарожванне актываў і забарону на паездкі для чатырох чалавек»*, бо іх лічаць *«датычнымі да нераскрытых знікненняў двух апазіцыйных палітыкаў, бізнесмена і журналіста ў 1999 і 2000 гадах».*

*«Савет таксама працягнуў забарону на прымяненне абмежавальных мер на экспарт біятлоннага рыштунку і спартыўных вінтовак і спартыўных пісталетаў спецыяльнага прызначэння ў Беларусь»*, – адзначаецца ў паведамленні.

Першапачаткова ў санкцыйны спіс Еўрасаюза ўваходзілі чатыры беларускія чыноўнікі – **Уладзімір Навумаў, Віктар Шэйман, Юрый Сівакоў** і **Дзмітрый Паўлічэнка**. На думку ЕС, яны маюць дачыненне да знікнення ў Беларусі апанентаў улады ў 1999–2000 гадах.

У снежні 2004 года, пасля парламенцкіх выбараў і рэферэндуму, паводле вынікаў якога Аляксандр Лукашэнка атрымаў права абірацца на пасаду прэзідэнта неабмежаваную колькасць разоў, спіс папоўнілі кіраўнік ЦВК **Лідзія Ярмошына** і начальнік палка міліцыі спецпрызначэння **Юрый Падабед.**

У 2006 годзе спіс пашырылі да 41 чалавека, якія, на думку ЕС, былі адказныя за парушэнне правоў чалавека падчас прэзідэнцкай кампаніі. У спіс быў уключаны і Лукашэнка.

У кастрычніку 2008 года санкцыі ў дачыненні да Лукашэнкі і яшчэ 35 чалавек былі прыпынены.

Дзеянне санкцый ЕС да Беларусі было адноўлена і пашырана пасля прэзідэнцкіх выбараў 2010 года, якія завяршыліся жорсткім разгонам мірнай дэманстрацыі ў Мінску, арыштам большасці альтэрнатыўных кандыдатаў у прэзідэнты і масавымі рэпрэсіямі ў дачыненні да грамадзянскай супольнасці.

На працягу наступных пяці гадоў чорны спіс ЕС неадназова мяняўся: некаторых фізічных асоб і прадпрыемствы з яго выключалі, іншых – уносілі. Акрамя гэтага, у 2011 годзе ЕС увёў эмбарга на пастаўкі зброі.

15 лютага 2016 года Савет ЕС прыняў рашэнне зняць абмежавальныя меры ў дачыненні да 170 фізічных асоб і 10 кампаній. Пад санкцыямі засталіся Уладзімір Навумаў, Віктар Шэйман, Юрый Сівакоў і Дзмітрый Паўлічэнка. Таксама было захавана эмбарга на пастаўкі зброі і забарона на экспарт тавараў для ўнутраных рэпрэсій.

У лютым 2017 года санкцыі былі працягнуты на год. Пры гэтым ЕС дазволіў экспарт у Беларусь біятлоннага рыштунку.

Чарговым разам абмежавальныя меры ў дачыненні да Беларусі Савет ЕС працягнуў у лютым мінулага года.

**Захар ШЧАРБАКОЎ** (БелаПАН).

СІТУАЦЫЯ

## Недаплацілі

*Падаткавікі налічылі сямейнай пары падаходны падатак на агульную суму больш за 120 тысяч рублёў.*

У Баранавічах сямейная пара пяць гадоў атрымлівала значныя прыбыткі за мяжой, але не плаціла з іх падаходны падатак, паведамляе прэс-служба Камітэта дзяржкантролю.

Муж з жонкай рэгулярна ездзілі ў Латвію. Там яны здымалі грошы з банкаўскага рахунку падкантрольнай ім кампаніі, зарэгістраванай у Вялікабрытаніі. Паводле звестак КДК, за 2013–2017 гады яны атрымалі больш за 400 тысяч еўра і 140 тысяч долараў. Пры гэтым у падатковай дэкларацыі ні мужчына, ні жанчына гэтыя прыбыткі не ўказвалі.

Падаткавікі налічылі сямейнай пары падаходны падатак на агульную суму больш за 120 тысяч рублёў. На мужа і жонку распачалі крымінальныя справы за ўхіленне ад выплаты падаткаў у буйным і асабліва буйным памерах.

**Віктар ШПАК.**

НАПЯРЭДАДНІ

## Што скажуць Статкевіч, Саннікаў і Някляеў?

Заўтра, 27 лютага, яны зладзяць прэс-канферэнцыю ў… Варшаве. Яе тэма – сітуацыя ў Беларусі напярэдадні парламенцкіх і прэзідэнцкіх выбараў.

Палякі яшчэ не забылі заяў, зробленых старшынёй Савета Рэспублікі Міхаілам Мясніковічам падчас яго нядаўняга візіту ў Варшаву, і вось заўтра ў Press Club Polska выступяць вядомыя апаненты беларускіх улад.

ДИСКУССИЯ

## Игорь Петришенко за бесплатную попытку ЭКО

*Заместитель премьер-министра Беларуси не осталась в стороне от темы, которая стала едва ли не самой обсуждаемой на прошлой неделе. Так, в минувшем номере «Народной Воли» инициативу Минздрава аргументированно поддержала заведующая отделением планирования семьи и репродукции* ***медицинского центра «ЛОДЭ» Елена Панкратова****.*

Горячая дискуссия в обществе развернулась после резкого заявления главы католической церкви в Беларуси митрополита Тадеуша Кондрусевича, который выступил и против ЭКО, и против финансирования за государственный счет первой попытки этой процедуры. Медики в свою очередь настаивают на том, что нельзя лишать тысячи белорусских семей возможности стать родителями и активно поддерживают инициативу Минздрава сделать первую попытку ЭКО бесплатной. Сегодня в среднем ее стоимость колеблется в пределах 4–6 тысяч рублей. Парам предоставляется льготный кредит, но тем не менее для многих, особенно молодых пар, ЭКО недоступно из-за финансовых сложностей.

*«Мы проанализировали возможность оказания государственной поддержки, чтобы не брать кредит в банке. Считаю, что это абсолютно правильный подход»,* – заявил Игорь Петришенко в эфире Белорусского телевидения.

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

ВАС ИНТЕРЕСУЕТ...

# Кто такой Анатолий Маркевич?

*Недавно прочитал, что новым помощником президента – инспектором по Брестской области стал Анатолий Маркевич. Считаю, что такую должность должны занимать знаковые, авторитетные персоны. К сожалению, совершенно ничего не знаю про Анатолия Маркевича… Расскажите, пожалуйста!*

**Иван ПИНЕВИЧ, Минский район.**

Анатолию Маркевичу 48 лет, он родился в деревне Громки Щучинского района Гродненской области. По образованию учитель физики и математики, окончил Брестский педагогический университет. Некоторое время работал учителем в Щучине, а в 28 лет стал директором Кореличской средней школы №1. В 2002 году карьера Маркевича пошла в гору – его назначили заместителем председателя Кореличского райисполкома, а в 2011-м – председателем Новогрудского райисполкома.



Маркевич также имеет диплом Академии управления при президенте Республики Беларусь.

Чем будет заниматься помощник президента – инспектор по Брестской области в первую очередь?

*«Мы должны стабилизировать ситуацию по оттоку рабочей силы из Брестской области, уделить внимание проблемным предприятиям, повышению заработной платы,* – цитирует чиновника belta.by. – *Нынешний год особенный для Бреста, который отмечает свое тысячелетие. Приедет много делегаций. Но в первую очередь вся работа должна быть организована так, чтобы город был еще красивее и гостеприимнее. В приоритете местных властей будет наведение порядка и благоустройство территорий».*

Кстати, в бытность председателем Новогрудского райисполкома Маркевич очень часто проводил встречи с трудовыми коллективами.

Чем еще известен Анатолий Маркевич?

Он верит в Бога. И в прошлом году, когда в Свято-Никольском кафедральном соборе Новогрудка прошел молебен о даровании дождя, председатель Новогрудского райисполкома Анатолий Маркевич вместе со свитой местных чиновников читал в храме молитвы.

Анатолий Маркевич не поддержал инициативу о переименовании одной из улиц города в честь всемирно известного ученого Бориса Кита.

*«Переименование улицы влечет за собой замену паспортов граждан, проживающих на этой улице, технических паспортов и других документов, требующую определенных материальных затрат»,* – написал в ответ на петицию Маркевич. И объяснил, что имя Бориса Кита уже почтили: он является Почетным гражданином Новогрудка, а в 2007 году его имя было внесено в Книгу славы Новогрудского района. Анатолий Маркевич отмечает, что в средней школе №1 есть музей Бориса Кита, где хранятся его личные вещи, фотографии и различные документы.

Маркевич любит спорт, неплохо стоит на лыжах – даже принимал участие в «Минской лыжне» и «Лыжне Гродненщины».

У Анатолия Маркевича трое детей.

*«Когда открываю дверь и вижу глаза троих своих сынишек и любимой жены, усталость как рукой снимает,* – признавался он в одном из интервью. – *Ради этого стоит жить и работать...»*

**Марина КОКТЫШ.**

100 РАДКОЎ

Міхася СКОБЛЫ



# Марш у Гайнаўцы

Здавалася б, у гэтай трагічнай гісторыі даўно пастаўлена кропка над «і», прычым аўтарытэтнай у Польшчы ўстановай – Інстытутам нацыянальнай памяці. Ды камусьці і людская памяць – як дзкарацыя для самапіяру, для таннай пʼесы, у якой па волі нявбачнага рэжысёра падзеі з лёгкасцю цыркавой сабачкі пераварочваюцца з ног на галаву. Калі ж гэтую працэдуру ўчыніць з літарай «і», то атрымаецца пафасны клічнік, у нашай гісторыі зусім недарэчны.

А гісторыя такая. У лютым 1946 года на пажмежнай Беласточчыне, якая толькі што паводле Ялцінскага пагаднення адышла да Польшчы, вайсковыя аддзелы пад камандай капітана Арміі Краёвай Рамуальда Райса (псеўданім – Буры) спалілі пяць беларускіх вёсак – Залешаны, Зані, Лазіцу, Старыя Пухалы і Выганаўскую Вольку – і забілі 79 мірных жыхароў, не пашкадаваўшы ні старых, ні малых. Найстарэйшай ахвяры было 83 гады, наймалодшай не споўнілася і году... Людзей зганялі ў хаты і падпальвалі, стралялі на вуліцах, параненых дабівалі ў прылеглых лясках.

Прычым, па ўспамінах відавочцаў, бандыты Бурага знішчалі не ўсіх падрад – не чапалі католікаў і тых, хто прызнаваў сябе палякам, мог прачытаць на памяць малітву "Ойча наш" па-польску. Такім чынам зачышчалася тэрыторыя і даваўся злавесны знак усім беларусам, што спрадвеку жылі ў тых мясцінах, – выязджайце на ўсход, у БССР, інакш і вас чакаюць агонь, куля і штык.

Забойствы па нацыянальнай прыкмеце ва ўсім свеце лічыцца генацыдам, які караецца вельмі жорстка. Менавіта так і характарызаваў дзеянні Бурага суд у Беластоку, які ў 1949 годзе прыгаварыў яго да найвышэйшай меры. Прызнаў Бурага адказным за забойствы – ужо ў 2005-м – і польскі Інстытут нацыянальнай памяці.

Але знайшліся ў Польшчы дзеячы, якія вырашылі абеліць забойцу (маўляў, асуджаны ў часы прамаскоўскага рэжыму) і ўзняць яго на шчыт славы. Ужо некалькі гадоў зацішнае мястэчка Гайнаўка ў канцы лютага скаланаюць маршы польскіх шавіністаў, што нясуць партрэты Бурага – як абразы пакутніка, які загінуў на камуністычнай шыбеніцы. Для іх Рамуальд Райс – герой, змагар за незалежнасць Польшчы. І нікога з тых маршавікоў не хвалюе, што «герой» ваяваў з састарэлымі дзядамі і немаўлятамі.

Цягам многіх гадоў гэтая тэма ў Польшчы шырока не абмяркоўвалася, карную аперацыю Бурага называлі нейтральна – «пацыфікацыяй вёсак на Беласточчыне». Не афішаваліся і месцы пахавання ахвяр, іх удалося ўдакладніць толькі адносна нядаўна. Ды і сёння працягваецца даследчая праца – пад апекай тамтэйшага Беларускага гістарычнага таварыства, якое ўзначальвае прафесар Алег Латышонак. Высвятляюцца прозвішчы, усталёўваюцца помнікі, у «вогненных вёсках» ладзяцца ўшанавальныя мерапрыемствы. На якіх, аднак, ніколі не бывалі высокія ўрадоўцы ні з Варшавы, ні з Мінска.

Таму нядаўні візіт у Залешаны Міхаіла Мясніковіча (для многіх, відаць, нечаканы) выглядаў насамрэч сенсацыйным. А яшчэ – вельмі чалавечным, спакойным, без гучных заяў і сумятні. Найстарэйшы беларускі палітык у інтэрвʼю тэлеканалу «Белсат» (дарэчы, па-беларуску) прызнаўся, што адчуваў сваім абавязкам менавіта ў Залешанах закончыць свой чатырохдзённы візіт у Польшчу, каб «укленчыць перад памяццю бязвінна забітых беларусаў».

Прызнацца, я ўспрыняў гэтыя словы як фігуральны выраз. Але старшыня Савета Рэспублікі падышоў да помніка, перахрысціўся і сапраўды ўкленчыў. І выглядала гэта, паўтаруся, зусім не паказной дзеяй на публіку, ішло сапраўды ад сэрца. Так, прынамсі, мне ўбачылася і адчулася. І паклон той – на каленях – многім запомніцца надоўга.

Не ведаю, наколькі выніковымі былі перамовы Міхаіла Мясніковіча з польскім прэзідэнтам Анджэем Дудам і маршалкам Сената Станіславам Карчэўскім. Але кропка ў тым візіце была пастаўлена своечасова і ў патрэбным месцы. Наведанне высокай службовай асобай з Беларусі Залешанаў – як знак падтрымкі суайчыннікаў на Беласточчыне, не распешчаных увагай афіцыйнага Мінска. А яшчэ – як знак нязгоды Беларусі з пэўнай групоўкай у Польшчы, якая нават на вечным агні памяці спрабуе засмажыць сваю палітычную ячэйню.

Цешыць, што паласаваца ёю збіраецца няшмат ахвотнікаў. Сёлета ў маршы памяці «праклятых жаўнераў» (так палякі называюць карнікаў 1946 года) пад лозунгам «Буры – наш герой!» узяло ўдзел толькі каля 200 чалавек. Але акцыя прайшла ўжо чацвёртым разам, яна раздзімаецца ў СМІ, таму для невялікай Гайнаўкі той марш – як землятрус. Падземная «хваля» ад якога лёгка пераадольвае ўмацаваную па ўсіх правілах Еўрасаюза мяжу і скаланае (пакуль што злёгку) агульную прызбу нашага добрасуседства.

Беларускія балоты мякка паглынулі б тую хвалю, ды іх даўно асушылі…

З ЗАЛА СУДА

# «Прашу аднаго – міласэрнасці да мяне…»

*Пракурор запрасіў для былога начальніка Мінскага гарадскога патолагаанатамічнага бюро і галоўнага патолагаанатама Міністэрства аховы здароўя* ***Аркадзя Пучкова*** *9 гадоў пазбаўлення волі ва ўмовах узмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці.*

*У судзе Ленінскага раёна Мінска завяршаюцца судовыя слуханні па гэтай рэзанансавай справе.*

У сваёй прамове дзяржабвінаваўца **Святаслаў Вялікі** папрасіў палічыць змякчальнымі абставінамі чыстасардэчнае раскаянне Пучкова, стан здароўя абвінавачанага і меры па частковай кампенсацыі ўрону, але пры гэтым пракурор папрасіў суд улічыць, што Пучкоў здзейсніў свае злачынствы цягам доўгага перыяду, і нават назваў яго дзеянні *«ў значнай ступені сацыяльна небяспечнымі»*.




Аркадзю Пучкову ў студзені споўнілася 70 гадоў, юбілей ён сустрэў за кратамі: медык знаходзіцца ў СІЗА з моманту затрымання – з чэрвеня 2018 года. Падчас аднаго з судовых пасяджэнняў, калі пракурор зачытваў абвінавачанне, Пучкоў нават заплакаў. *«Больш за ўсё мне сорамна перад дзецьмі, сорамна перад калегамі, – заяўляў у судзе Пучкоў. – Шыбра каюся ў зробленым, разумею ўвесь цяжар здзейсненага мною»*.

Ягоная справа, безумоўна, гучная, рэзанансная і… непрыгожая. Учора ў сваёй прамове пракурор адзначыў: *«З вопыту разгляду падобных карупцыйных спраў я не ўзгадаю, каб слухалася справа аб тым, як начальнік абклаў данінай сваіх падначаленых, і такі парадак захоўваўся з 2004-га па 2018 год. Пры гэтым ва ўстанове працавала камісія па барацьбе з карупцыяй, абвінавачаны ўдзельнічаў у яе працы»*.

Як вядома, яшчэ падчас следства Аркадзь Пучкоў прызнаў віну амаль цалкам, то бок пацвердзіў, што гадамі атрымліваў грошы ад прадпрымальнікаў за заключэнне дагавораў, па якіх у бюро пастаўляліся труны, вянкі, крыжы, жалобныя карзіны, – 10% ад сумы пастаўленага тавару, што браў грошы ад санітараў морга, якімі кіраваў, ад іпэшнікаў, якім перадаваў інфармацыю аб памерлых і г.д. Таксама падчас следства Пучкоў кампенсаваў суму шкоды – вярнуў больш за 425 тысяч рублёў, хаця папярэдне яго абвінавачвалі ў атрыманні хабараў у 390 тысяч рублёў. Дарэчы, таму ўчора, калі пракурор заявіў дадатковую суму шкоды ў памеры больш за 29 тысяч рублёў і дзяржпошліну, Аркадзь Пучкоў іск не прызнаў, заўважыўшы, што ён ужо аплаціў шкоду і сума гэта больш за тую, якую яму прадʼявілі першапачаткова…

*«9 гадоў калоніі для 70-гадовага чалавека – гэта ўсё роўна што пажыццёвае пакаранне»,* – так учора рэагавалі многія на словы пракурора. Дарэчы, на кожнае судовае пасяджэнне падтрымаць Пучкова прыходзіць шмат людзей.

У апошнім слове ў судзе Аркадзь Пучкоў сказаў:

– Я разумею, што няма і не будзе мне прабачэння за тое злачынства, якое я здзейсніў. Таму прашу аднаго – міласэрнасці да мяне… Мне ідзе восьмы дзясятак, і любы працягласці тэрмін прывядзе да таго, што я не змагу апошнія крокі зрабіць сярод унукаў і дзяцей. Занадта мала ў мяне засталося фізічных і маральных сіл і занадта шмат хранічных захворванняў, якія могуць прывесці да смяротнага зыходу ў любы момант. Таму калі дазваляе закон, прашу прызначыць мне мінімальнае пакаранне.

Прыгавор Аркадзю Пучкову суддзя **Марына Запаснік** мусіць агучыць 4 сакавіка.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ДОБРЫ ПРЫКЛАД

## Медыкам прапануюць… пахудзець

*У Гродне распачынае дзейнічаць праект для медработнікаў, якіх заклікаюць весці здаровы лад жыцця, прытрымлівацца правільнага харчавання і займацца фізкультурай і спортам.*

Тым, хто скіне найбольшую колькасць кілаграмаў, абяцаюць матэрыяльнае заахвочванне.

На працягу дзейнасці праекта на смартфонах удзельнікаў будуць усталяваны праграмы, якія вымяраюць колькасць зробленых крокаў. Індывідуальна з кожным удзельнікам будзе працаваць эндакрынолаг.

Акрамя гэтага, у красавіку сярод медыкаў распачнецца марафон «Пешкі на працу». Урачам прапануецца дабірацца на працу выключна пешкі – раней у такім марафоне брала ўдзел больш за 60 медработнікаў. Адна з удзельніц, паводле слоў арганізатараў, такім чынам скінула 12 кілаграмаў.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

РАЗВІТАННЕ

## Бывайце, Міхась Пятровіч!



**Сумная навіна прыйшла з Гомельшчыны: не стала найстарэйшага сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў, сталага аўтара «Народнай Волі» Міхася Даніленкі...**

*Міхась Пятровіч Даніленка нарадзіўся 28 кастрычніка 1922 года ў в.Ястрабка Лоеўскага раёна ў сялянскай сямʼі. Скончыў Рэчыцкае педагагічнае вучылішча (1941), быў мабілізаваны ў Чырвоную Армію. Ваяваў на Паўднёва-Заходнім фронце, у маі 1942-га ненадалёку ад станцыі Мікалаеўка (Украіна) быў кантужаны і трапіў у палон. У сакавіку 1944-га ўцёк з лагера ваеннапалонных, з жніўня 1945 года зноў у дзеючым войску. Працаваў настаўнікам Казярожскай 7-гадовай школы Лоеўскага раёна. Скончыў завочна Гомельскі педагагічны інстытут (1952). У 1952–1982 гадах працаваў у газеце «Гомельская праўда». З 1983-га жыў у в. Багатая Града Лоеўскага раёна. Сябра Саюза пісьменнікаў з 1950 года.*

*Першае апавяданне напісаў у 1940 годзе. Аўтар зборнікаў апавесцяў і апавяданняў «Мая песня» (1952), «Майская навальніца» (1959), «Наваселле» (апавяданні і нарысы, 1964), «Наш дом» (1971), «Запаветны акіян» (1972), «Маці Марʼя» (1976), «Журлівіца» (1980) і многіх іншых.*

*Быў узнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны II ступені і медалямі. Адзначаны дзвюма граматамі Вярхоўнага Савета БССР.*

**Рэдакцыя газеты «Народная Воля» смуткуе за нагоды смерці свайго даўняга аўтара і сябра.**

ЗАКУЛИСЬЕ

# Александр Конюк сыграл с подчиненными в шахматы

*Правда, приз генеральному прокурору не дали – он занял лишь четвертое место.*

Генеральная прокуратура организовала ведомственный турнир по быстрым шахматам.

Как сообщает пресс-служба Генпрокуратуры, победу одержал начальник отдела прокуратуры города Минска по надзору за исполнением законодательства управлением Следственного комитета по городу Минску **Олег Кондаревич**, второе место занял старший прокурор управления Генпрокуратуры по надзору за исполнением законодательства Следственным комитетом **Виктор Граш**, третье – начальник отдела по надзору за соответствием закону судебных решений по уголовным делам прокуратуры Минской области **Андрей Лытин**.

**Даша ПАВЛОВСКАЯ.**



**Александр Конюк** *(на фото слева)* **обдумывает ход.**

ДОСЛОВНО

## Ирина Костевич, министр труда и соцзащиты:

– Мы не раз проводили социологические исследования, спрашивали у домашних хозяйств с детьми, что необходимо для увеличения рождаемости. На первое место люди ставят жилье. В текущем году уже принято постановление правительства, и не менее 12 тыс. многодетных семей в этом году получат квартиры. На следующий, 2020 год, взята такая же планка.

*(Перед началом коллегии ведомства 25 февраля.)*

ЧУЛІ?

## Будзе амністыя!

**Аляксандр Лукашэнка** даручыў распрацаваць законапраект аб амністыі ў сувязі з 75-годдзем вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Адпаведнае даручэнне ён агучыў 25 лютага на сустрэчы са старшынёй Вярхоўнага суда **Валянцінам Сукалам**, перадае БЕЛТА.

Дарэчы, папярэдняя амністыя праводзілася ў 2015 годзе.

ДАРЭЧЫ

## «Ні ў якія вароты не лезе»

Падчас сустрэчы з Валянцінам Сукалам Аляксандр Лукашэнка заявіў, што неабходна звярнуць увагу на судзейскі корпус. Паводле слоў кіраўніка дзяржавы, у апошні час да яго прыходзіць інфармацыя аб павелічэнні фактаў супрацьпраўнай дзейнасці з боку суддзяў.

*«Я разумею, што ў сям'і не без вырадка, розныя людзі бываюць. Але калі атрымліваеш інфармацыю аб супрацьпраўнай дзейнасці саміх суддзяў, гэта ні ў якія вароты не лезе»,* – заявіў Лукашэнка.

*– Таму трэба нейкім чынам акуратна папярэдзіць яшчэ раз, ім нагадаць, што перад законам усе роўныя. І судзейскі корпус, выканаўчая ўлада, заканадаўцы».*

КРЫМІНАЛ

## Адразу дзве справы

У Магілёве затрыманы галоўны спецыяліст упраўлення архітэктуры і горадабудаўніцтва Магілёўскага гарвыканкама, паведамляе прэс-служба МУС.

Чыноўніка вінавацяць у атрыманні хабару за тое, што ён легалізоўваў «самабуды». На чыноўніка пачалі крымінальную справу за атрыманне хабару. Праваахоўнікі працягваюць высвятляць акалічнасці.

Паведамляецца, што «кліентаў» для чыноўніка знаходзіла яго 33-гадовая знаёмая – камерцыйны дырэктар фірмы па нерухомасці. Пасрэдніца атрымлівала ад хабару сваю долю. На яе распачалі крымінальную справу за падбухторванне да хабару і махлярства.

ГУЧНАЯ СПРАВА

## Яшчэ аднаго медыка падазраюць у карупцыі

*У Гродне міліцыя затрымала аднаго з кіраўнікоў клінічнай бальніцы хуткай дапамогі, якога падазраюць у карупцыі.*

Паводле інфармацыі, змешчанай на сайце УУС, затрыманы браў хабар пры закупцы імпартных эндапратэзаў у адной з прыватных кампаній. Міліцыя сцвярджае, што падчасператрусу затрыманы добраахвотна выдаў 15 тысяч долараў. Зараз праводзіцца следства па выяўленні іншых удзельнікаў злачыннай схемы, якая, паводле сцвярджэння міліцыі, дзейнічала на працягу некалькіх гадоў.

Нагадаем, што раней супрацоўнікі міліцыі правялі серыю затрыманняў па падобных правапарушэннях у межах «справы медыкаў». У прыватнасці, на 7,5 года пазбаўлення волі быў асуджаны начальнік упраўлення аховы здароўя Гродзенскага аблвыканкама Андрэй Стрыжак. Паводле меркавання следства, за чатыры гады ён атрымаў больш за 30 тысяч долараў ад бізнесменаў, якія пастаўлялі медтэхніку ў бальніцы і дыспансеры, у якасці «падзякі» за своечасовы разлік за тавар. Абвінавачаны прызнаў толькі частку з заяўленага хабару на суму 19,7 тысячы долараў і вярнуў іх падчас вядзення следства.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

ТЕМА ДНЯ



Вячеслав ОРГИШ, доктор философских наук, профессор

# Суверенитет или чечевичная похлебка

### Мысль с далеко идущими последствиями

У Исаака, потомка библейского праотца Авраама, было два сына. Исаву как старшему принадлежало первородство, то есть преимущество в отцовском благословении перед младшим братом Иаковом. Однажды Исав возвратился домой с охоты усталым и голодным. Иаков в это время варил себе похлебку из чечевицы. Исав попросил: «Дай мне поесть». Иаков на это сказал: «Продай мне свое первородство». Исав ответил: «Вот я умираю от голода, что мне в этом первородстве». Иаков потребовал: «Поклянись». Исав поклялся, и сделка состоялась. Исав продал свое первородство за чечевичную похлебку.

Далекая ветхозаветная драма. Тем не менее ее мораль не лишена поучительного смысла, когда речь заходит о политических опасностях и угрозах новейшей отечественной истории.

Начать с того, что современные вызовы носят не только внутренний характер. Существуют внешние субъекты стратегического действия, которые проявляют избыточную активность на политической сцене.

С одной стороны, Западом развернут интеграционный процесс планетарного масштаба, получивший название глобализации. Этот процесс проникает повсеместно, нивелирует политику, экономику, культуру, меняет отношение к национальному государству. На этот счет характерно высказывание одного из наиболее авторитетных политиков – федерального канцлера Германии Ангелы Меркель: «Национальные государства сегодня должны, я сказала бы – обязаны, быть готовы отдать свой суверенитет» (выступление 22 ноября 2018 года в Берлине на конференции «Парламентаризм между глобализацией и национальным суверенитетом»). Мысль с большими и далеко идущими последствиями.

Таким образом, дело не только в том, какую политическую позицию выбирают участники общественно-политического процесса. Дело не только в левых и правых, в коммунистах и демократах. Еще водораздел сегодня проходит между сторонниками транснациональной интеграции и национально ориентированными силами.

Европейский выбор как возможный выход для Беларуси в свете происходящего в современном мире конфликта глобалистских империативов и национальных ценностей представляется трудным. Европейское сообщество пока не сформировалось как вполне самостоятельная и консолидированная сила. Интеграция в Европейский Союз, на которую делали ставку постсоветские республики и которой добились отдельные из них, сегодня представляется предприятием с неоднозначной перспективой. Страны-новобранцы Евросоюза, которые рассчитывали на быструю постиндустриальную модернизацию экономики, пока прошли только стадию демонтажа советского индустриального наследия. Мировой экономический кризис, притязания транснациональных акторов расшатывают традиционные политические и культурные институты и ценности старой Европы. Систему и структуры европейского жизнеустройства атакуют орды мигрантов из стран Африки и Ближнего Востока. Не сегодня – завтра, тревожатся некоторые аналитики, может появиться «европейский халифат». Так что, собираясь в Европу, надо помнить о реалиях.

### Налоговый маневр союзника

С другой стороны, мы наблюдаем совсем не шуточную активизацию восточного субъекта стратегического действия, который устами своих руководителей все более настойчиво требует «глубокой интеграции». Российские политологи с энтузиазмом рассуждают о «трансферте белорусской власти». Российская Федерация предприняла экономические шаги, связанные с так называемым «налоговым маневром», которые сокращают доходы белорусской казны от переработки российских углеводородов. В декабре 2018 года межправительственные разногласия по этому вопросу непривычно обострились. Москва, как полагают эксперты, увязывает сохранение налоговых льгот для Беларуси с политическими уступками Минска. Многие политики, по-видимому, не без оснований, усматривают в позиции Москвы стремление подвести белорусскую власть к такой черте экономической и политической интеграции, переступив которую, она окажется в безвозвратной вассальной зависимости.

Сочинские переговоры президентов А.Лукашенко и В.Путина 13–15 февраля 2019 года на этот счет ясности не добавили. На встрече с журналистами глава белорусского государства сказал, что суверенитет – «это икона, это святое», а вот независимость – это понятие относительное. Сообразуясь с такой логикой, к суверенитету прикасаться нельзя, а независимостью можно распоряжаться по обстоятельствам. Однако классические трактовки суверенитета определяют его именно как независимость государства во внешних и внутренних делах.

### Отползать или не отползать?

Итак, российско-белорусский интеграционный процесс отличается особой драматургией. Инстинкт национального самосохранения подсказывает: сократить дистанцию рискованно. Можно перейти на положение национальной окраины. Отползать?! Но куда и с какими последствиями? Наша южная соседка уже попробовала «отползти»… Российская Федерация экспортирует в Беларусь относительно недорогие энергетические и иные ресурсы, предоставляет кредиты, служит самым крупным рынком сбыта белорусских товаров. Россия и Беларусь проросли друг в друга культурно, исторически, экономически и демографически. И если все же не отползать, то как сохранить необходимый барьер, который будет непреодолим для тех, кто готов покуситься на белорусский суверенитет? Российские олигархи охотно приобретут ключевые белорусские активы. Российские политики рассчитывают получить в свои руки инструменты союзной власти, которые позволят им распоряжаться в пределах белорусской юрисдикции. Российские генералы добиваются более основательного военного присутствия на белорусской земле.

Хорошо, допустим, мы не отползаем и нам удается установить барьер, который защищает наш суверенитет. Означает ли это, что для Беларуси нет экзистенциальной угрозы с востока? Российская Федерация, увы, находится не в лучшей форме. Она сумела построить крепкую армию, но ее экономические и социально-политические, межнациональные отношения наполнены противоречиями. Государственную и хозяйственную жизнь разъедает коррупция. Значительная часть российского общества живет в нищете и бедности. По официальным данным, 21% россиян находится ниже черты бедности (независимые эксперты называют цифру вдвое больше). 1% самых богатых российских граждан владеет 71% всех личных активов в РФ (https://www.vedomosti.ru/opinion/articles/2012/11/06/pervaya_sredi_neravnyh). Длительное отсутствие убедительного роста в экономике, неудовлетворенность большой части россиян материальными условиями существования могут обернуться социальными потрясениями, волны которых способны докатиться и до нас. Сможем ли мы в этом случае отползти, и в какую сторону?

### Понять, куда движется общество

Вопросов много, слишком много. Белорусскому обществу, правящей элите, определяясь с будущим, крайне важно понять, куда движется мир, какой будет его международная структура. Большинство аналитиков сходится в том, что традиционное мироустройство на принципах, которые защищают незыблемость суверенитета национальных государств, уходит в прошлое.

Мировое сообщество стоит на распутье. Одно из двух: либо грядущее мироустройство будет воплощением принципов глобализма, примет очертания однополярной системы, управляемой из одного центра, либо же возобладает многополярность и сформируется несколько крупных региональных зон. Структурно и организационно это могут быть сверхкрупные союзные государства, обладающие политической и экономической самостоятельностью на основе собственных ресурсов и рынка. Однако в одном и другом случаях национальным государствам, скорее всего, придется расстаться с традиционными формами исторического существования. Угроза национальным суверенитетам коренится уже в самой логике новейшей мирохозяйственной практики. Появление транснациональных экономических и финансовых структур, крупных региональных экономических субъектов с собственной ресурсной базой и рынками сбыта ставит национальные хозяйства в уязвимое положение. Очевидно, что у малой экономики скромные возможности для успешной конкуренции с большой экономикой. Именно на этом обстоятельстве спекулируют те, кто добивается «глубокой интеграции». МТЗ, МАЗ, БелАЗ и другие лидеры белорусской промышленности – предприятия, производящие хорошую в своем классе продукцию. Пусть спрос на эту продукцию внутри Беларуси составляет 20%. Куда продавать остальные 80%? В Китае и Европе такие же тракторы, машины и прочие агрегаты производят с избытком и зачастую предлагают по более привлекательным ценам. К тому же почти повсюду действуют протекционистские меры. На этом примере совсем не сложно увидеть, как небольшая экономика помимо своей воли становится заложницей фундаментальных процессов современности. Восточная соседка вполне может позволить себе, сильно не опасаясь ответной реакции белорусской стороны, сказать: «Отползайте, но тогда забудьте о преференциях на нашем рынке, забудьте о российских кредитах, а тракторы мы купим еще дешевле у китайцев». Бессердечная логика, но где в мире сердечность служит основой межгосударственных отношений? Когда Беларусь вошла в игру под названием «Союз России и Беларуси», уже тогда было понятно, что за экономические уступки Москва рано или поздно потребует от нее уступок политического характера. Углубление интеграции, к которому накануне 2019 года призвали российские лидеры, есть не что иное, как предложение начинать платить по политическим счетам. Тем более что ревнителям российской державности на руку, как отмечалось выше, новейшие тенденции, связанные с трансформацией мироустройства и кризисом национальных государств.

### Между несогласными мирами

Борьбу на российско-белорусском интеграционном треке опасно осложняет давнее противостояние между Россией и Западом. Две силы уперлись друг в друга, мечут стрелы, брызжут ядом угроз и апокалиптических проклятий. Желание России быть великой глобальной державой и стремление Запада противодействовать этому придают такой конфронтации брутальный характер. Как иллюстрация – статья под названием «Управляя распадом России» в газете The Hill, освещающей деятельность Конгресса США. Януш Бугайский (научный сотрудник вашингтонского аналитического центра анализа европейской политики) рассуждает: «Чтобы сдержать российский неоимпериализм, нужна новая стратегия, которая будет способствовать упадку России и позволит преодолеть международные последствия от ее распада (https://inosmi.ru/politic/20190110/244362763.html). Геополитические попытки Запада «сломать» Россию вызывают у нее ответную реакцию противодействия, желание передвинуть границу от Смоленска к Бресту.

Опасные геополитические игры окружают Беларусь с разных сторон. Конечно, хотелось бы все-таки отползти. Но где нас ожидают? За Западным Бугом? Это не новость. Как не новость и то, что на Беларусь оттуда кое-кто смотрит как на восточную окраину. Конечно, у нас есть неплохие шансы занять место недостающего звена в так называемой Балто-Черноморской «санитарной» дуге, которую западные геополитики стремятся образовать на границе Евросоюза с Россией. Но станет ли приглашение на эту роль охранной грамотой для белорусского суверенитета? Новейшие исторические реалии существования Беларуси таковы, что сберечь этот «клочок земли», не группируясь ни с одной из сторон, разыгрывая одну-единственную роль моста между Востоком и Западом, крайне сложно. Не надо обольщаться и думать, что находясь под дождем, мы сможем неограниченно долго двигаться между струями воды, не намочив платья.

### Апостолы «глубокой интеграции»

На восточном контуре внешней политики Беларусь приблизилась к красной линии. Чего же конкретно добиваются радикальные апостолы «глубокой интеграции»? Во-первых, они полагают и, по-видимому, не без оснований, что нас ожидает новый миропорядок. Не лишен смысла и второй тезис. Глобализация в какой-то точке остановится, начнется ее откат (показательно, что на нынешнем международном экономическом форуме в Давосе одной из сквозных тем была именно деглобализация). Образуется небольшое число супергосударств (об этом уже шла речь). Россия претендует на строительство именно такого супергосударства. В новых реалиях малые национальные государства попросту не смогут самостоятельно выжить. У них, убеждены архитекторы «глубокой интеграции», нет лучшего выхода, чем идти под начало сверхдержавы. Беларусь со своим ограниченным внутренним рынком и сложившейся структурой производства не имеет шансов на успех в одиночном плавании. Начавшись с Беларуси, рассуждают далее в Москве, объединительный процесс затем перекинется на другие ныне суверенные государства из числа бывших советских республик. Вхождение в режим «глубокой интеграции» поможет Беларуси справиться с экономическими и социальными трудностями, в том числе перейти на внутрироссийские цены на энергоносители. В сухом остатке концепция союзного строительства по понятиям радикальных сторонников интеграции такова: белорусы соглашаются на российское пилотирование, а взамен получают бесплатный чечевичный суп.

Менее плотоядные интеграторы говорят белорусской стороне: ладно, вы не хотите уступать государственный суверенитет, тогда давайте создавать прочный политический союз, общее экономическое пространство, которое отчасти уже существует. Начнем вводить в действие элементы общей системы государственного управления. Единого государства не будет, пока мы не найдем, как решить проблему общей эмиссии денег и не снимем другие спорные вопросы. Иначе говоря, мы, российская сторона, хотим видеть эффективно работающий российско-белорусский союз с очень высоким уровнем политической интеграции и полной экономической интеграцией. Союзная практика должна опираться на общие органы политического и экономического планирования. В перспективе Беларусь станет частью крупного союзного федеративного государства на евразийском пространстве.

### Нужен проект будущего

Как видим, российско-белорусская история напряглась. Российские политики полагают, что Минск, несмотря на риторику, не может, не готов оторваться от России. Отодвинуться в Европу, по их мнению, мешает фактор НАТО, Польши, стран Балтии. Конечно, белорусская политическая и экономическая модель, властная вертикаль во многом перпендикулярны российской модели. Но в еще большей степени белорусские институты отличаются от европейских. Политическая организация белорусской власти в глазах европейских лидеров недемократична и нелиберальна. Поэтому, считают в Москве, Минску все равно рано или поздно придется принять российскую политическую и экономическую модель и договариваться с российским руководством об условиях прекращения интеграционного сопротивления.

Судьба была благосклонна к Беларуси. Общество привыкло к относительно безмятежному постсоветскому существованию. Однако мир стремительно меняется. Беларусь не сможет долго уклоняться от новых укладов жизни. Чтобы сохранить траекторию национального движения, надо ее совершенствовать. В том числе своевременно и на приемлемых для национальных интересов условиях вписываясь в интеграционные форматы. Современные мировые тенденции, как отмечалось выше, создают угрозы национальному существованию. Но они не фатальны, если, конечно, правильно понять и оценить новейший общественный процесс и не ошибиться относительно своего места в нем. На недавней встрече с бывшими главами МИД Республики Беларусь президент А.Лукашенко заявил: «Мы должны защитить суверенитет и независимость». Призыв, бесспорно, важный и своевременный, но остается понять, как его пафос согласуется с сочинскими высказываниями белорусского президента, который, рассуждая о российско-белорусской интеграции, заявил: «Мы готовы настолько идти далеко в единении, объединении наших усилий государств и народов, насколько вы готовы…».

Современные вызовы носят объективный характер. Надо двигаться им навстречу, но для этого нужен хорошо выверенный национальный проект будущего, твердое понимание того, что такой проект может быть только групповым, то есть основанным на сложении усилий различных субъектов исторического процесса. Самое сложное в белорусском выборе – определить других участников проекта. Найти разумную формулу исторической кооперации с ними, при этом избежав «чечевичной» ловушки.

Решать эту задачу в одиночку власти вряд ли под силу, да и опасно. Участие в этом деле общественности, возможно, определяющий фактор. Именно поэтому наше общество нуждается в диалоге и дискуссии. Широкая дискуссия по поводу той истории, которая развернулась вокруг белорусского суверенитета, защита его – дело, безусловно, общественное, а не только правящей элиты.

В ситуации острых современных вызовов правящий класс не может обойтись прежними политическими инструментами, заточенными под авторитарные технологии. Он нуждается в общественной консолидации и партнерстве со всеми конструктивно настроенными политическими силами. События на внешнем контуре недвусмысленно говорят о том, что позиция руководства Беларуси, если оно хочет уступить и удержать интересы страны, должна опираться на широкую политическую коалицию, на сознательную национальную поддержку. С ультиматумами (от какой бы внешней силы они ни исходили) справиться закулисно белорусская власть не сумеет. Рано или поздно ей выкрутят руки и затолкают (если еще не затолкали) в «нужную» колею.

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## Не пісьменнік, а янот больш цікавіць наш народ

У аршанскім музеі Уладзіміра Караткевіча прайшла выстава «Парк пушыстых». Наведвальнікі маглі ўбачыць трусоў, янотаў, малпаў і г.д. – усяго 30 відаў дзікіх звяроў. Ліна Гатоўская, дырэктар музея, нічога дзіўнага ў выставе звяроў не бачыць, бо музею трэба зарабляць грошы (білет каштаваў 7 рублёў).

Чым любы музей для нас цікавы?
Сэнс музея ўвогуле які?
Экспанатаў многа, і выставы
Там парою ладзяць мастакі.
Ведаў жа, што ёсць музей у Оршы,
Мала хто да сённяшняга дня:
Хоць музей не лепшы і не горшы,
Ды сталічным, ясна, не раўня.
Тым не меней кожны з нас павінны
Той музей наведаць: як-ніяк,
Караткевіч – гонар для краіны,
Для аршанцаў гонар – што й зямляк.
Ды зусім не так…
Таму кабета,
Што здаўна ў музеі рэй вядзе,
Вельмі часта думала пра гэта.
Рады ўсё ж дала яна бядзе:
– Наш музей наведваць неахвота
Ні дарослым і ні дзетвары.
А зірнуць на малпу і янота
Пажадае нават дзед стары.
Сродкаў малавата на зарплаты,
А калі пакажам мы звяроў,
Будзе, так сказаць, улоў багаты,
Грошай награбём мы – будзь здароў!
Спраўдзілася гэтая надзея,
Цётка не дурыла ўсім глузды:
Да музея,
Як да Калізея,
Шыбавалі людзі сапраўды…
* * *
Сумна мне, сябры, ад гэтай явы,
Бо расчалавечыцца народ,
Як яму, народу, больш цікавы
Не пісьменнік-геній, а янот…

## Лепш папрасі ў суседкі, каб вымыла шкарпэткі

У Магілёве 41-гадовы мужчына спрабаваў украсці ў краме 5 пар шкарпэтак і 4 флаконы туалетнай вады. Да крадзяжу ён загадзя рыхтаваўся: часта завітваў у краму, вывучаў асартымент, высвятляў, як працуе ахова…

Заўсягды са спешкі мала толку –
Гэта я дасведчана скажу.
І дзяцюк праводзіў падрыхтоўку,
Перш чым прыступіць да крадзяжу.
Ён хадзіў у краму як на працу –
Там бываў па тры разы на дзень,
Бо хацеў дакладна разабрацца,
Што залезе ў сумку, што ў кішэнь.
І каб, як на злодзея, аковы
Не надзелі потым у судзе,
Падлічыў ён, колькі там аховы,
І запомніў, хто стаіць і дзе.
Што ж украў пасля такой разведкі,
Што саваў пад куртку на хаду?
Мусіць, не паверыце: шкарпэткі!
Ну і туалетную ваду.
Варта, пэўна, высветліць спачатку,
Хто ён і жыве на свеце як.
Выкажу бясспрэчную здагадку:
Той дзяцюк, канешне, халасцяк.
Глянеш на касцюм і чаравікі –
Вылічыш як бач халасцяка,
Бо касцюм малы або вялікі
І па ім жаночая рука,
Так сказаць, не пахадзіла прасам,
А абутак выцвілы такі,
Што насы – як крэйда.
(Праўда, часам
Сочаць за сабой халасцякі.)
Толькі ўсё ж галоўнае не ў гэтым –
Можна ім прабачыць брыдкі строй.
Ад халасцякоў зімой і летам
Патыхае «водарам» парой.
А чаму? Бо брудныя шкарпэткі,
Мыюцца яны гады ў рады,
І не йдуць замужнія суседкі,
Каб абліць іх кружкаю вады
Ці запхнуць у пральную машыну.
Значыць, выхад бачыцца адзін:
Па шкарпэткі новыя мужчыну
Трэба завітаць у магазін.
Перабіць не самы лепшы «водар»
Можа й туалетная вада,
І не ўсе трымацца будуць воддаль…
Грошай дзецюку было шкада.
«Лепей іх патрачу на «чарніла»,
Чым на туалетную ваду, –
Думка галаву запаланіла. –
А шкарпэткі ў краме я ўкраду…»
Вось такі расклад…
І заўтра злыдзень,
Мусібыць, патрапіць у турму.
Там не будзе «пахнуць»:
Раз на тыдзень
Можна будзе ўў душ схадзіць яму…
* * *
Каб не кралі болей,
Ні аховы
Нам, бадай, не хопіць, ні замкоў.
А чаму прыйшоў я да высновы?
Вельмі шмат у нас халасцякоў…

УЛЫБКА ХУДОЖНІКА



Рисунок Ирины ПУСТОВАЛОВОЙ.

38-летняя заведующая молочно-товарной фермой в Ивьевском районе появилась на работе пьяной. За это ее уволили. Недовольная таким решением женщина угнала с территории фермы служебную «Ниву».

Остановить бывшую начальницу никто из работников не смог. Виляя из стороны в сторону, автомобиль выехал на дорогу, однако буквально через пару километров съехал в кювет и перевернулся. На помощь женщине пришли ее бывшие подчиненные. Угонщице повезло – травм она не получила, а вот машину довольно сильно повредила.

Сейчас в отношении бывшей заведующей фермой возбуждено уголовное дело за угон.

РЕЗОНАНС

## Заметку написал инопланетянин, наблюдающий с Марса за белорусской школой

Прочитал в «Народной Воле» за 12 февраля статью Валерия Янчука «Школа должна развиваться вместе с обществом». Вначале сложилось впечатление, что некий талантливый автор написал яркий сатирический памфлет, сознательно доведя до абсурда «успехи» школы и предлагаемые меры по улучшению образования. Увы, при втором чтении понял, что заметку написал инопланетянин, наблюдающий с Марса за белорусской школой. К сожалению, вынужден согласиться с мнением Леонида Борщевского: в школьном образовании почти все плохо. Единственное хорошее там – еще остающиеся отличные учителя, которых с каждым годом становится все меньше и меньше.

Господин Янчук называет в качестве хорошего «модернизацию инженерных сетей, обновление классов», даже обновление «фасадов зданий». Наверное, он перепутал школу с коммунальным хозяйством и не понимает, что задачи школы иные, чем украшение фасадов зданий, что посади учеников хоть во дворцы – знания их от этого не улучшатся. С другой стороны, неужели автор заметки ничего не знает о регулярных поборах с родителей на ремонт школьных классов?

Издевательством звучит сообщение о том, что многие школы борются за звание «Учреждение образцового качества и порядка». Пенсионер Янчук должен помнить те времена, когда многие бригады, цехи, а то и заводы боролись за «высокое» звание «коллективов коммунистического труда».

Хотелось, чтобы автор указал, за какие конкретно «успехи нашей школы» мы должны быть благодарны чиновникам от образования. К тому, что дети отлично владеют компьютером, они не имеют никакого отношения.

Валерий Янчук предлагает только эволюционные меры в школе. Одна из них – вернуть мужчину в школу. Но как? Проблема значительно глубже: престиж профессии учителя упал ниже всяких плинтусов. Тяжелая и без того его работа теперь включает многие унизительные обязанности, а с недавнего времени и смертельную опасность. А приложение ко всем трудам – низкая зарплата.

Смешно выглядит предложение «власть употребить», чтобы написать хорошие учебники. Наверно, автор считает, что написать учебник можно по приказу, как и «Войну и мир». Но пусть он найдет хоть одну служебную инструкцию, согласно которой работник обязан писать учебники. Хорошие учебники пишутся за несколько лет с предварительной апробацией. Работа эта трудная и плохо оплачиваемая. Но Институт образования должен представить учебники срочно. Вот и идут сырые учебные пособия в ход.

Если господин Янчук предлагает президенту страны «власть употребить» и приказать министру образования создать условия для написания учебников, то я полностью его поддерживаю. Но не очень-то чиновники слушают президента. Сколько раз он говорил о необходимости освободить учителей от лишней работы, а воз и ныне там.

Полностью согласен с последней фразой статьи господина Янчука: «Все мы в ответе за то, какой быть школе».

**Олег МЕЛЬНИКОВ, преподаватель.**

НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ПРАБЛЕМА

## Не, не сацыяльна арыентаваны ў нас дзяржбюджэт…

У мінулым годзе «Народная Воля» надрукавала некалькі маіх лістоў, у якіх быў зроблены аналіз сучаснага сацыяльна-эканамічнага стану Беларусі. Найбольшую цікавасць выклікаў артыкул «Пражорлівы дзяржаўны апарат» (20.11.2018). У ім я сканцэнтраваў увагу на ролі і значэнні дзяржаўнага бюджэту ў жыцці супольнасці і кожнага з нас. Цяплілася спадзяванне, што, зацвярджаючы бюджэт на сёлетні год, дэпутаты Палаты прадстаўнікоў улічаць выказаныя прапановы і ён набудзе рэальны сацыяльна скіраваны характар, надасць жыццю беларусаў сацыяльны дынамізм.

На жаль, дзяржаўны бюджэт 2019 года мала чым адрозніваецца ад папярэдняга.

Гэта ж якімі трэба быць рэтраградамі, каб велізарныя грошы падаткаплацельшчыкаў накіроўваць на падтрымку прадпрыемстваў і цэлых галін, якія не здольны атрымліваць прыбытак ад сваёй дзейнасці? Чаму ў Беларусі не працуе інстытут банкруцтва? А калі працуе, то калі злезуць з бюджэтнай «іголкі» прадпрыемствы-банкруты? Чаму адна частка грамадства павінна карміць другую праз бюджэтнае пераразмеркаванне?

Мае апаненты могуць запярэчыць: распрацоўваючы бюджэт, дэпутаты парламента не забыліся і пра адукацыю, ахову здароўя, сацыяльнае забеспячэнне. Пытанне рубам: **КОЛЬКІ (?)** накіроўваецца бюджэтных грошай у сацыяльную сферу? Адказ – мізэр:

***– сацыяльная палітыка – 8,9%;***
***– адукацыя – 4,8%;***
***– ахова здароўя – 4,6%;***
***– фізкультура, спорт, культура, СМІ – 2,9%...***

Гэтыя лічбы аж сорамна ўзгадваць. Пра які клопат дзяржавы аб народзе можна весці гаворку пры такім узроўні фінансавання сацыяльнай сферы? Аб чым думаюць дэпутаты, націскаючы кнопкі згоды пры галасаванні?

Найбольш яскрава новае канцэптуальнае разуменне ролі бюджэту ў наладжванні жыцця прадэманструем на прыкладзе размеркавання **бюджэту Фінляндыі** (гл. дыяграму №1, 2018 г.). Сацыяльны кампанент у гэтай краіне складае на сённяшні дзень 71% (сацыяльная палітыка і пенсіённае забеспячэнне – 43,7%, адукацыя – 10,9%, ахова здароўя – 14,3%, культура – 2,5%).

### Дыяграма №1



| | | |
|---|---|---|
| ■ | Агульнадзяржаўныя выдаткі | 14,3 |
| ■ | Нацыянальная абарона | 2,4 |
| ■ | Нацыянальная бяспека і праваахоўная дзейнасць | 2,3 |
| ■ | Нацыянальная эканоміка і інфраструктура | 8,3 |
| ■ | Ахова навакольнага асяроддзя | 1,1 |
| ■ | Ахова здароўя | 14,3 |
| ■ | Культура і рэлігія | 2,5 |
| ■ | Адукацыя | 10,9 |
| ■ | Сацыяльная палітыка і пенсіённае забеспячэнне | 43,7 |

### Мадэлі сацыяльнай палітыкі

| Назва мадэлі | Краіны | Доля бюджэту, якая выдаткоўваецца на сацыяльную палітыку (у %) |
|---|---|---|
| Скандынаўская | Швецыя, Нарвегія, Данія, Фінляндыя | 70 |
| Паўднёваеўрапейская | Іспанія, Італія, Грэцыя | 50 |
| Англасаксонская | Вялікабрытанія, Ірландыя, Францыя, Канада | 40 |
| Кантынентальная | Германія, Швейцарыя, Бельгія, Нідэрланды, Аўстрыя, Францыя (часткова) | 50 |

Асаблівую ўвагу звяртаю на выдаткі фінскага бюджэту, якія звязаны з нацыянальнай абаронай і праваахоўнай дзейнасцю – 2,4% і 2,3% адпаведна. Гэта прыгожы і вельмі пераканаўчы прыклад беларускім сілавікам і не толькі ім для разумення тых станоўчых стваральных змен, што адбыліся і працягваюць адбывацца ў грамадстве ў імя дабрабыту не аднаго чалавека ці адной сям'і, а кожнага і ўсіх грамадзян. Больш за тое, гэтых сродкаў фінскім сілавікам дастаткова, каб трымаць порах сухім. Мяркую, што і нашым вайскоўцам гэтага будзе больш чым дастаткова...

Нагадаем: астатнія скандынаўскія краіны на сацыяльную палітыку (а гэта значыць на паляпшэнне жыцця людзей) выдаткоўваюць значныя бюджэтныя сродкі – бо адкуль яшчэ іх узяць? Такія падыходы да размеркавання бюджэтных сродкаў нарадзіліся на Захадзе не ўчора і нават не пазаўчора. Для большай пераканаўчасці прапаную азнаёміцца з размеркавальнай часткай **нарвежскага бюджэту** (дыяграма №2) дваццацігадовай даўніны (1999 г.).

### Дыяграма №2

Структура расходнай часткі бюджэту Нарвегіі ў 1999 годзе

Сума выдаткаў у бюджэце складае 552.394 мільёны крон.



| | | |
|---|---|---|
| ■ | Сацыяльная абарона | 37,9% |
| ■ | Ахова здароўя | 16,1% |
| ■ | Адукацыя | 13,4% |
| ■ | Эканамічная дзейнасць | 10,3% |
| ■ | Агульныя дзяржаўныя паслугі | 10,2% |
| ■ | Абарона | 4,8% |
| ■ | Адпачынак, культура і рэлігія | 2,6% |
| ■ | Грамадскі парадак і бяспека | 2,2% |
| ■ | Ахова навакольнага асяроддзя | 0,9% |
| ■ | Жыллёвыя і камунальныя паслугі | 0,9% |

Азначаныя падыходы ў размеркаванні бюджэту сталі нормай для Нарвегіі: людзі багата жывуць, працуюць, атрымліваюць асалоду ад жыцця. І так амаль паўсюдна ў краінах Еўропы. Сёння ў свеце існуюць розныя мадэлі сацыяльнай падтрымкі і абароны насельніцтва: скандынаўская, англасаксонская, кантынентальная, паўднёваеўрапейская (гл. табліцу).

Падкрэслю: дзяржбюджэт Беларусі на сацыяльную палітыку выдаткоўвае ўсяго каля 20% сродкаў. Вось кошт лозунгаў пра будаўніцтва моцнай сацыяльнай краіны! Сумная рэчаіснасць... Нельга ўвесь час трымаць народ за сляпога!

А цяпер давайце прааналізуем, дзякуючы чаму і як ідзе фарміраванне (напаўненне) бюджэту. У адпаведнасці з нормай Закона №160-З «Аб дзяржаўным бюджэце на 2019 г.» ад 30 снежня 2018 г. асноўнымі крыніцамі фарміравання бюджэту з'яўляюцца:

**– падатковыя даходы (77,6%) = 18.382.520.145 руб.;**
**– непадатковыя даходы (11,8%) = 2.792.033.960 руб.;**
**– бязвыплатныя паступленні (10,6%) = 2.508.154.824 руб.**

Як бачым, галоўнай крыніцай фарміравання дзяржбюджэту з'яўляюцца нашы падаткі. Кожны з нас кожны месяц робіць унёсак у бюджэт не менш як 48% заробку (падаходны падатак – 13%, фонд сацыяльнай абароны – 34%, страхавыя ўнёскі – 1%...). І кожны падаткаплацельшчык мае права ведаць, як выкарыстоўваюцца бюджэтныя сродкі.

Чаму ў Еўропе бюджэтныя сродкі накіроўваюцца ў асноўным у сацыяльную сферу, чаму там, а не ў нас, у прыярытэце развіццё адукацыі, аховы здароўя, пенсіённае забеспячэнне, дапамога шматдзетным, беспрацоўным? Гэтыя пытанні ў першую чаргу для тых, хто ў Міністэрстве фінансаў Рэспублікі Беларусі распрацоўвае праект бюджэту, хто яго разглядае ў Палаце прадстаўнікоў і Савеце Рэспублікі, хто яго зацвярджае. Усім ім карысна паглядзець 12-серыйны фільм-падарожжа па скандынаўскіх краінах, падрыхтаваны ў мінулым годзе Уладзімірам Познерам і Іванам Ургантам пад назвай «Самыя. Самыя. Самыя». Выснова фільма: скандынавы – самыя шчаслівыя ў свеце людзі, яны навучыліся размяркоўваць бюджэт у інтарэсах абсалютнай большасці людзей, жыць самі для сябе і атрымліваць асалоду ад свайго жыцця.

Міжнародны вопыт (Данія, Нарвегія, Германія, Фінляндыя, Швецыя і інш.) сведчыць: там, дзе дбаюць пра людзей, іх інтарэсы, іх дабрабыт, на першае месца выходзяць не толькі клопаты аб напаўненні бюджэту, але яшчэ ў большай ступені – аб яго размеркаванні.

**Узорным з'яўляецца наступнае размеркаванне бюджэту:**

***дзяржаўная дзейнасць (сфера) – 10–15%;***
***эканамічная дзейнасць (сфера) – 10%;***
***нацыянальная абарона і праваахоўная дзейнасць (сфера) – 5%;***
***сацыяльная дзейнасць (сфера) – 70%.***

Наспеў час прама сказаць: нам, беларусам, трэба жыць па цывілізаваных законах. І перш-наперш неабходна збалансаваць інтарэсы грамадства і дзяржавы (50 на 50) праз унясенне адпаведных змен у размеркавальныя артыкулы бюджэту.

**Васіль РУСОВІЧ, дацэнт, сацыёлаг.**

ДАВЕДАЧНАЕ БЮРО



На пытанні чытачоў адказвае старшыня Пухавіцкай раённай арганізацыі ГА «Беларускае таварыства абароны правоў спажыўцоў» Васіль ВАЛАСЮК.

### Замяніць тэлефон

*Набыў мабільны тэлефон, але праз некалькі дзён стаў трашчаць дынамік. Ці можна апарат замяніць на новы без рамонту ў сэрвісным цэнтры?*

**Віктар ДАРОШКА, г.Брагін.**

– Тэлефон, безумоўна, можна замяніць, але пры наяўнасці істотнага недахопу. Таму найперш прыйдзецца атрымаць заключэнне сэрвіснага цэнтра альбо незалежнага эксперта.

### Зламаўся лічыльнік электраэнергіі

*Што рабіць, калі ў новай кватэры, у якую мы нядаўна пераехалі, не працуе лічыльнік электраэнергіі? Некаторыя кажуць, што могуць і штраф даць…*

**Аляксандр БАЛЫКІН, Мінск.**

– Ніхто вам штраф не дасць, калі вы тэрмінова вырашыце гэтую праблему. А для яе вырашэння найперш звярніцеся ў «Мінскэнерга». Там спецыялісты патлумачаць, што неабходна зрабіць, каб адрамантаваць лічыльнік альбо замяніць яго.

### Ці можна праверыць вагу тавара на рынку?

*У асноўным купляю прадукты на рынку, але часам мне здаецца, што прадаўцы мяне крыху падманваюць, калі ўзважваюць тавар. Ці можна на рынку пераправерыць вагу, каб пераканацца, што не падманулі?*

**Марыя САДОЎСКАЯ, г.Орша.**

– На кожным адкрытым рынку ў адміністратара ёсць кантрольныя шалі, дзе можна адразу праверыць вагу набытага тавару, а часам такія шалі і проста стаяць у спецыяльна адведзеным месцы. Таму можаце праверыць вагу. У выпадку несупадзення звяртайцеся да прадаўца.

### Сэрвісная станцыя зрабіла «падарунак»

*Аддаў аўтамабіль на станцыю сэрвіснага абслугоўвання, а мне там яго падрапалі. Віну сваю яны прызналі і прапаноўваюць зафарбаваць драпіны. А ці магу я патрабаваць, каб не фарбавалі месца пашкоджання, а цалкам замянілі крыло?*

**Сяргей КУЧЫНСКІ, Гродна.**

– Можаце. Выстаўляйце прэтэнзію сэрвіснай станцыі на ліквідацыю пашкоджання (замену крыла) і кампенсацыю маральнага і матэрыяльнага ўрону.

### Замяніць каструлю

*Купіла ў магазіне каструлю, але вырашыла замяніць яе на такую ж, але большую па аб'ёме. Каструляй ніводнага разу не карысталася. Ці можна зрабіць замену?*

**Валянціна ПАДОЛЬСКАЯ, Мінскі раён.**

– Можаце, але толькі пры наяўнасці дэфекту, які будзе ўстаноўлены экспертызай. У любым выпадку тавар можна вярнуць на працягу 14 дзён, а затым набывайце тое, што захочаце.

### У тэлефоне слабая фотакамера

*Купіў тэлефон, але ў тэхніцы я не вельмі дасведчаны. Праз нейкі час высветлілася, што фотакамера зусім слабая і здымкі атрымліваюцца няякасныя. Ці магу я вярнуць тэлефон у магазін?*

**Алег ШЭВЕЛЬ, г.Паставы.**

– Вам трэба было параіцца наконт пакупкі са спецыялістам, перад тым як набываць тэлефон. Зараз яго вярнуць можна будзе толькі пры наяўнасці істотных недахопаў.

### Калі гарантыйны рамонт немагчымы

*Набылі ў магазіне ноўтбук, а праз тыдзень ён зламаўся. У магазіне сказалі, што гарантыйны рамонт немагчымы. Што зараз рабіць?*

**Віктар ВЫСОЦКІ, Мінск.**

– Спажывец у такім выпадку павінен атрымаць экспертнае заключэнне аб якасці тавару і прадаставіць яго ў магазін, каб затым вярнуць грошы альбо замяніць тавар.

### Аддаў мэблю ў рамонт

*Набылі мэблю, але яна аказалася з недахопамі, і фірма забрала мэблю, каб яе парамантаваць. Ці абавязаны прадавец на перыяд рамонту мэблі прадаставіць мне ў карыстанне іншую?*

**Сцяпан ГАРЭЦКІ, Мінск.**

– Не абавязаны.

Народная Воля

http://www.nv-online.info

26 ЛЮТАГА 2019 г.

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

# «Вундэркінд з Гомеля» працягвае сваё пераможнае шэсце




У 19 гадоў гамяльчанін **Генадзь КАРАТКЕВІЧ** узначаліў рэйтынг мацнейшых праграмістаў свету, а сваю першую задачу па праграміраванні рашыў у восем гадоў. Ужо ў другім класе Караткевіч стаў прызёрам рэспубліканскай алімпіяды.

*«Я даў яму кніжачку, каб хлопчык прачытаў і пачаў пісаць праграмы*, – успамінае школьны трэнер Генадзя па праграміраванні **Міхаіл Далінскі**. – *Пасля гэтага ад Гены не было ніякіх звестак. А затым неяк прыходзіць яго маці Людміла Іванаўна і прыносіць цэлы сшытак з праграмамі: лета і футбол закончыліся, сын сеў за камп'ютар»*.

Сёння Генадзь Караткевіч вядомы як пераможца мноства прэстыжных спаборніцтваў па спартыўным праграміраванні – быў першым *на VK Cup-2015, Russian Code Cup-2014, TopCoder Open-2014, Facebook Hacker Cup…*

*Сайт* Bloomberg напісаў пра беларуса так: «*З такімі навыкамі Караткевіч мог бы ўжо зараз атрымаць высокааплатную працу практычна ў любой кампаніі ў Крэмніевай даліне…*»

Днямі ў індыйскім Бангалоры прайшлі міжнародныя спаборніцтвы для праграмістаў SnackDown-2019, пераможцамі якіх сталі беларус **Генадзь Караткевіч** *(на фота ў цэнтры)* і ўкраінец **Барыс Мінаеў.** Удзельнікам конкурсу прапаноўвалася за 5 гадзін рашыць 10 складаных алгарытмічных задач.

– Як бачым, сын працягвае сумяшчаць вучобу і спаборніцтвы, – распавяла «Народнай Волі» маці камп'ютарнага генія **Людміла Іванаўна КАРАТКЕВІЧ.** – Мяркую, што адно аднаму не перашкаджае. У бягучым годзе гэта быў для сына першы буйны турнір, а ўвогуле за год у сярэднім ён бярэ ўдзел у 5–10 спаборніцтвах па спартыўным праграміраванні.

**– Гэта для сына захапленне ці нешта іншае?**

– Гэта і спорт, і любімае захапленне. Чалавек жыве пастаянна праграміраваннем, чаму б не паказаць свае здольнасці і не паспаборнічаць з іншымі? Ды і зарабіць нейкую капейку можна.

**– Паведамлялася, што ваш сын і ўкраінец Барыс Мінаеў за перамогу на турніры ў Індыі атрымалі на дваіх 10 тысяч долараў…**

– Барыс, дарэчы, вучыўся ў той жа ВНУ, што і Генадзь, яны не ўпершыню разам выступаюць. А што тычыцца прызавых за турніры, то атрымліваюць хлопцы не заўсёды тыя сумы, якія агучваюцца. Спачатку краіна, якая праводзіць спаборніцтвы, можа ўзяць з прызавых нейкі падатак, затым – падатковая інспекцыя…

**– Генадзь па-ранейшаму вучыцца ў Санкт-Пецярбургу?**

– Пасля заканчэння Санкт-Пецярбургскага ўніверсітэта інфармацыйных тэхналогій, механікі і оптыкі сын з чырвоным дыпломам скончыў бакалаўрыят і магістратуру.

А зараз вучыцца бясплатна на бюджэтнай аснове на 1-м курсе аспірантуры. Жыве ў інтэрнаце пры ўніверсітэце.

**– У Гомель, напэўна, рэдка прыязджае?**

– Звычайна два разы ў год – летам і зімой. Сын вельмі заняты чалавек.

**– Вядома, што Генадзю паступае шмат прапаноў з зарубежных кампаній…**

– Пакуль што яму трэба чатыры гады адвучыцца ў аспірантуры, а далей час пакажа. У гэтым годзе сыну спаўняецца 25 гадоў, ён ужо дарослы чалавек, рашэнні будзе прымаць сам.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

НА СВЯЗИ – КИЕВ

# Страсти накаляются

*В Украине за месяц до выборов развернулись нешуточные баталии. В середине февраля стало известно, что кандидат в президенты шоумен Владимир Зеленский не только продолжает удерживать первую строчку президентского рейтинга, но и ушел в отрыв от ключевых кандидатов, которых рассматривали как основных участников второго тура.*

## Технические кандидаты

Всего ЦИК Украины зарегистрировал 44 кандидата, это своеобразный рекорд. Ранее максимальное количество зарегистрированных участников было в 2004 году – 24 человека. Но, безусловно, не все из 44 кандидатов вышли бороться до победного конца. Значительная их часть – это так называемые «технические кандидаты», и они играют строго отведенную им роль. Во-первых, их участие должно распылять голоса избирателей и отнимать их у определенных кандидатов. Во-вторых, позволяет заполнить избирательные комиссии «нужными» людьми. В-третьих, их избирательные фонды и агитационные возможности используются для контрагитации против основных конкурентов.

На сегодняшний день не предопределена победа ни одного кандидата. До дня голосования, 31 марта, еще целый месяц. Но уже понятно, что основная тройка кандидатов, которые борются за выход во второй тур, останется неизменной. Только чудо может позволить вмешаться в эту борьбу трем следующим за ними кандидатам: **Юрию Бойко** (9,8%), **Олегу Ляшко** (6,6%) и **Анатолию Гриценко** (6,1%).

## За счет чего собрались выигрывать лидеры гонки?

Владимир Александрович Зеленский аккумулирует значительное число голосов избирателей, уставших от «старых» политиков. Сам Зеленский продюсер, художественный руководитель, сценарист, артист, шоумен и долларовый миллионер, заработавший свои активы, создавая развлекательный контент для телевидения. Владимир Зеленский выступает за продолжение движения Украины в Евросоюз и в НАТО. Его предвыборная программа подтверждает неизменность статуса украинского языка как единственного государственного. Русскоязычных никто притеснять не будет, а поэтому их ни от кого защищать не надо. Кроме этого, напомню читателям, что в феврале 2015 года Следственный комитет РФ возбудил уголовное дело о финансировании Зеленским украинской армии, чем он по сей день продолжает заниматься. В его программе прописано стремление завершить войну, вернуть временно оккупированные территории, заставить агрессора возместить нанесенный ущерб.

Политтехнологи Петра Алексеевича Порошенко практически всю стратегию выстраивают на основном пропагандистском клише «или Порошенко, или Путин». Раскручивая этот штамп, подкрепляют его тезисами, провоцирующими истерию в обществе, играя на страхе людей перед «русским миром», обвиняя практически каждого критикующего власть в сговоре с агрессором. Посыл такой: если не изберут Порошенко, то всё – любой другой победивший кандидат развернет Украину и направит ее прямиком в лапы агрессивной России.

Но так ли это? Многие эксперты считают, что разворот Украине не грозит. Потому что сама Россия создала условия невозможности такого поворота. Российская Федерация развязала в Украине войну, оккупировала и аннексировала значительную территорию страны, погибли тысячи людей, разрушена экономика на оккупированных территориях, сотни тысяч беженцев покинули свои дома. По сути, Россия – это агрессивный враг, это тот фактор, который будет доминирующим в ближайшие несколько десятилетий. Украинская армия и СБУ уже не те, что были в 2014 году накануне вторжения, они стоят на страже государства.

Юлия Владимировна Тимошенко фактически все время между кампаниями просидела в засаде. На фоне стагнирующих рейтингов соперников она резких движений и заявлений не делала и сохранила свой электорат. И даже до начала официальной кампании за счет раннего старта немного нарастила рейтинг. А дальше рост остановился. Юлия Владимировна занервничала и начала метаться, заходить на поле, которое окучивал Петр Алексеевич, и пытаться агрессивно перехватить темы, которые он эксплуатировал: Евросоюз, НАТО, армия и церковь. Но не получилось. Тимошенко переоценила свои возможности, уверовав в безусловный выход во второй тур и недооценив молодого политика, который за счет всплеска электоральных симпатий на старте кампании обошел ее. Теперь она третья, и ей надо перестраиваться на ходу, чтобы сохранить шанс на победу.

## Начинается противостояние силовых структур

Непредсказуемость ситуации и незначительный отрыв между идущими вторым и третьим кандидатами порождают войну не на жизнь, а на политическую смерть. С учетом того, что у обоих высокий антирейтинг и рост симпатий этим ограничен, политтехнологи кандидатов – Юлии Тимошенко и Петра Порошенко – решили сделать ставку на скупку голосов и начали выстраивать своеобразные схемы из «агитационных сеток», для того чтобы добрать недостающие голоса. Фактически из-за этого кампания переходит в противостояние украинских силовых структур. Что само по себе достаточно опасно для государства. СБУ протоколирует нарушения и возбуждает уголовные дела против сетевых структур Юлии Тимошенко, а МВД атакует сетевые структуры Петра Порошенко.

Это противостояние на минувшей неделе вылилось в грандиозный скандал, который разошелся по всем СМИ в Украине с опубликованием фактажа и демонстрацией оперативных мероприятий, проведенных СБУ и МВД. Оба силовых ведомства обозначили лиц (депутатов Верховной Рады из фракций БПП и «Батьківщина»), которые, по их мнению, являются организаторами и кураторами этих теневых схем. Решение использовать технологию тотальной скупки голосов при выборах президента лишний раз подчеркивает незрелость политических структур и в неприглядном свете выставляет Украину.

Министр МВД Арсен Аваков дал развернутое интервью общественно-политическому изданию «Зеркало недели», подробно рассказав не только про существующие сети скупки голосов, но и о том, что есть опасность манипуляций со списками избирателей при выдаче избирательными комиссиями бюллетеней. По данным миграционной службы, более 4 миллионов граждан Украины находятся за ее пределами. Не все они вернутся в страну в день голосования. И у министра есть информация о том, что нечестные на руку могут этим воспользоваться и добросить голосов определенному кандидату. Арсен Аваков предлагает гражданам с этой угрозой бороться совместными усилиями: «*Если наблюдатель от любого из кандидатов в президенты обнаружит, что на каком-то из участков выдан бюллетень на имя отсутствующего гражданина, он должен информировать об этом полицию. Полицейский, опираясь на имеющуюся базу данных, установит, действительно ли гражданин находится за границей. Далее – без труда вычислит, кто из членов комиссии незаконно выдал этот бюллетень*».

Сейчас обстановка в стране накаляется. Это может фактически вернуть Украину в ситуацию 2014 года. При сохраняющейся внешней экспансии появляется угроза внутренней дестабилизации. Поэтому уже не так важно, КТО станет президентом, но очень важно для будущего страны, КАК кто-то станет президентом.

**Александр ЦЫНКЕВИЧ,**
**собственный корреспондент газеты «Народная Воля» в Украине.**

ИССЛЕДОВАНИЯ

# Когда наступает старость…

*За последние полвека средняя продолжительность человеческой жизни на планете увеличилась на треть и превысила 72 года. Большинство людей собирается дожить до старости, но в разных странах мира радикально расходятся взгляды на то, когда она наступит, какой будет и как к ней готовиться.*

Испанцы считают стариками 74-летних, а для россиян рубеж – 61 год, показал опрос, проведенный авторитетной социологической службой Ipsos среди 20 тысяч жителей трех десятков стран.

Абсолютное большинство латиноамериканцев и две трети россиян, например, считают, что молодежь не уважает старшее поколение. С ними решительно не согласны опрошенные в Саудовской Аравии и Японии.

## В каком возрасте наступает старость?




*В скобках – средняя продолжительность жизни в стране. Источник: Ipsos, Всемирный банк.*

## Старость в радость

Опрошенные выделили четыре главных преимущества золотого возраста: можно не работать (26%), появляется больше времени на то, чтобы общаться с семьей и друзьями (36%), предаваться на досуге любимому делу (32%) и путешествовать (26%).

Однако есть и недостатки: не хватает денег на жизнь (30%), здоровье уже не то (26%), память подводит (24%) – так описывают ужасы преклонного возраста еще не достигшие его участники опроса.

В результате лишь каждый третий с воодушевлением ждет старости. Остальные не видят поводов для оптимизма.

## Золотая осень или унылая пора?




*Опрошены 20.788 человек в возрасте от 16 до 64 лет в 30 странах. Источник: Ipsos.*

Почему? Возможно, ответ кроется в том, с чем у людей ассоциируется преклонный возраст.

И тут примерно треть опрошенных сошлись на трех определениях: мудрость, немощность, одиночество. Только четверть полагает, что старикам везде у нас почет.

Богатство и счастье в этом рейтинге серьезно уступают грусти и бедности.

## Старики – какие они?




*Опрошены 20.788 человек в возрасте от 16 до 64 лет в 24 странах. Источник: Ipsos.*

Если старость не радость, возможно, стоит к ней заранее подготовиться.

«Всегда готовы!» – дружно говорят латиноамериканцы с китайцами. «Это невозможно», – опускает руки каждый второй опрошенный в России, Чехии и Южной Корее.

## Можно ли подготовиться к старости?

Остается надеяться на детей и внуков. Такого мнения придерживаются в основном люди в обществах с традиционным укладом жизни и в странах с развивающейся экономикой.

Респонденты в небогатых странах Азии и Латинской Америки в подавляющем большинстве считают, что молодежь должна ухаживать за престарелыми родственниками.

Обеспеченные японцы, корейцы и шведы, напротив, полагают, что старики предоставлены сами себе, а дети и внуки им ничего не должны.

## Должны ли молодые ухаживать за старыми?

А если надеяться только на себя, то как подготовиться к старости?




*Опрошены 20.286 человек в возрасте от 16 до 64 лет в 29 странах. Источник: Ipsos.*

Большинство опрошенных назвали самым важным поддержание хорошей физической формы регулярными упражнениями (60%), правильное питание (59%) и откладывание денег на достойную пенсию (51%).

Однако в топ-3 ответов на вопрос «Что вы лично делаете, чтобы подготовиться к эпилогу активной жизни?» из вышеперечисленного попало только здоровое питание – 43%. На первом месте в реальности – отказ от курения (45%), а на третьем – умеренность в употреблении алкоголя (40%).

**Би-Би-Си.**

РАКУРС

# С небольшим отрывом…



В Молдове 24 февраля прошли выборы в парламент. Партия социалистов, которую возглавляет пророссийски настроенный президент **Игорь Додон**, лидирует на выборах в парламент Молдовы с результатом более 31,39% после обработки 98% бюллетеней. На второе место вышел проевропейский блок Acum (26,07% голосов). Он находится в оппозиции как к Додону, так и к Демократической партии Молдовы, которой руководит олигарх Владимир Плахотнюк, и которая занимает третье место (24,04% голосов избирателей).

Партия социалистов Додона может набрать 33–35 мандатов из 101, Демократическая партия Плахотнюка – около 30, блок Acum – около 25, Партия Шора – восемь. Еще 10 мест достанутся независимым кандидатам или представителям других партий, избранным в одномандатных округах. Ни у кого из них не будет парламентского большинства, при том что только партия Плахотнюка заявила о готовности начать переговоры по формированию парламентского большинства.

У СОСЕДЕЙ

# Министр сделал заявление

США увеличат численность своего военного контингента в Польше, заявил польский министр национальной обороны **Мариуш Блащак,** подтвердив информацию, ранее опубликованную изданием Rzeczpospolita.

Он утверждает, что это пойдет на пользу обоим государствам, отметив, что, в частности, это улучшит ситуацию с безопасностью в регионе, а значит, реализует одну из стратегических целей США, «*которой является обеспечение безопасности*».

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

# Цуд Сяргея Ваганава



У журналістаў рэдка выходзяць кнігі, напісаные імі звычайна залягае ў запыленых падшыўках на стэлажах бібліятэк. Так ужо склалася, што газетная публіцыстыка – жанр, які застаецца ў надзённым, не прэтэндуючы на вечнае. Таму з усіх тых, хто піша, журналістаў можна лічыць самымі самаахвярнымі творцамі. Але бывае, што ў газетнай калонцы не ўмяшчаюцца ўсе пачуцці і эмоцыі аўтара, і тады слова публіцыстычнае паядноўваецца са словам паэтычным.

Знаны журналіст Сяргей Ваганаў піша вершы з 1963 года, з часоў сваёй газетнай маладосці. І толькі нядаўна ў яго выйшла першая кніга вершаў «Я веру ў цуд» – дзякуючы Саюзу беларускіх пісьменнікаў, які выступіў клапатлівым выдаўцом. Рэдакцыя «Народнай Волі» віншуе свайго даўняга аўтара з кніжным дэбютам і зычыць натхнення ва ўсіх падуладных яму жанрах!

**Сяргей ВАГАНАЎ**
***З кнігі «Я веру ў цуд»***



* * *

Галінка прарастае у Сусвет.
Адкуль, скажыце, тут яна з'явілася?
З якога зерня, што сяроД планет
Блукала ды за нашу зачапілася?
Ёй цёпла тут –
Між веснавых прыкмет.
Пупышка... лісцік...
Простая галінка...
Галінка прарастае у Сусвет.
Туды, дзе Вечнасць – як адна хвілінка.

**Паедзем паядзім**

На што, гляджу я, «Бульбаш-хол» падобны?
Вялікі архітэктар быў мастак.
Пад рэстаран будынак той падроблены,
А насамрэч – гулагаўскі барак.

Там не сталы, а шэраг стылых нараў.
З унутраных – афіцыянты – спраў.
І кухары для вас гатуюць стравы...
Не елі вы шчэ гэткіх смачных страў.

І запрашаюць вас паесці ў Курапаты.
І падвязуць праз цемру страшных ночак.
Чакаюць вас шыкоўныя салаты –
Свінец і жоўты (поўны рот!) пясочак...

* * *

Шкрабе ад раніцы лапаціна ў двары.
Напэўна, снег.
Святло ў маім акенцы.
А сёння дзень які ў календары?
Пад белай вокладкай,
Што ціха зранку тчэцца?
Які, скажыце мне,
Часоў няпэўны збег
Стаў новага стагоддзя нараджэннем?
А снег ідзе.
Ідзе вялікі снег –
Святлом у вокны, роўным абуджэнню.
Бясконцы мой перадсвітальны сон,
Не змучаны ні навіной, ні датай...
Які ён лёгкі!
Безжурботны ён...
А дворнік усё шкрэбае лапатай.

СЦЕНА

# Кто заплатит музыканту?

Прославленный молодой виолончелист **Иван Каризна** *(на фото)* вновь выступит в Минске 5 марта – виртуоз, давно обосновавшийся в Европе, не забывает свою родину. А буквально за день до этого знаменитый белорусский музыкант дает сольник в концертном зале Мариинского театра Санкт-Петербурга. И программа точно такая же: Шуберт – соната «Арпеджионе», Брамс – соната ми минор №1 для виолончели и фортепиано и шедевр Бетховена – «Крейцерова соната» (в переложении для этих двух инструментов). И в Минске виолончелисту аккомпанирует тот же пианист – Борис Кузнецов (Германия), что и в Санкт-Петербурге.



Конечно, приятно хоть иногда стоять в одном ряду с такими площадками, как Мариинка. Хотя афишами с ней белорусской филармонии все равно не тягаться. Понятно, что в Питере солисты мирового уровня – это ежедневная практика, просто «черный хлеб» концертного зала. У нас же афиша Белгосфилармонии беднеет год от года, ее сцена слишком часто, на мой взгляд, отдается теперь учащимся музыкальных школ, их отчетным концертам. Причем в вечернее время! Не спорю, молодые музыканты – это прекрасно, это наша надежда, и некоторые из них, наверное, уже сейчас достойны Большого зала филармонии. Но все-таки пока – днем, а не в вечернее время. Так делают во всем мире: ученики – на утренниках, именитые солисты и коллективы – на вечерних «імпрэзах».

Но, видно, ставить в афишу, кроме учеников, больше некого. Звезды теперь нечасто приезжают в филармонию, а если появляются, то по приглашению частных компаний. Государственное учреждение проигрывает на музыкальном рынке многие позиции. Действительно, известных зарубежных инструменталистов у нас не видно месяцами, в сезон мелькнет не более пяти-шести фамилий, а одни и те же певцы (и певицы) вообще выходят выступать с симфоническим оркестром годы и годы подряд. И если бы виртуозно…

Но, конечно, это не вина филармонии, а ее беда. Нет достойного государственного финансирования, нечем заплатить нормальный гонорар приглашенным музыкантам. А что такое перевести огромные академические оркестры – симфонический и народных инструментов – на самоокупаемость? Ну, скоро они, чтобы немного заработать, не только циркачей с голубями будут приглашать на сцену (как было 31 декабря – хотя перед Новым годом возможно все), но, глядишь, даже и «Спортлото».

Кстати, Иван Каризна выступает на Большой сцене филармонии от продюсерской компании «Музыкальный Дом «Классика». Хотя нам, публике, по большому счету все равно, кто платит музыканту, – лишь бы звучала музыка.

**Елена МОЛОЧКО.**

ЖАХ!

## Больш за 60 удараў рукамі і абутымі нагамі…

Упраўленне Следчага камітэта па Мінскай вобласці завяршыла расследаванне крымінальнай справы ў дачыненні да 43-гадовага жыхара Смалявіцкага раёна. Мужчыну вінавацяць у жорсткім забойстве сваёй маці.

*– Следства выявіла, што непрацуючы мужчына пражываў разам з маці, якая пасля інсульту не магла перамяшчацца сама, ёй быў патрэбны пастаянны догляд,* – распавяла прадстаўнік СК па Мінскай вобласці **Таццяна Беланог**. *– Напярэдадні днём сын атрымаў матчыну пенсію і выпіў. Увечары ён вярнуўся дадому і, раззлаваўшыся, калі маці спатрэбілася дапамога, жорстка яе збіў: нанёс ёй больш за 60 удараў рукамі і абутымі нагамі ў жыццёва важныя органы, што і прывяло да яе смерці. Потым сын пайшоў спаць. Калі знайшоў маці мёртвай, то паспрабаваў схаваць сляды злачынства і выклікаў «хуткую дапамогу».*

Выкліканыя медыкі канстатавалі смерць 69-гадовай жанчыны. Выявілася, што смерць жанчыны мае крымінальны характар.

Падчас следства мужчына хацеў «замесці сляды» і даваў супярэчлівыя сведчанні, заяўляючы, што маці памерла ад захворвання, а цялесныя траўмы атрымала падчас магчымага падзення.

Мужчына знаходзіцца пад вартай. Крымінальная справа перададзена ў пракуратуру для накіравання ў суд.

ЗАПРАШЭННЕ

## «Дзённікі і запісы» Рыгора Барадуліна можна набыць са зніжкай

*1 сакавіка 2019 года ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры адбудзецца прэзентацыя пяцітомнага збору «Дзённікі і запісы» народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна.*

Як паведамляе прэс-служба Саюза беларускіх пісьменнікаў, у першы выпуск дзённікаў і запісаў увайшлі вершы, якія не друкаваліся ў ранейшых зборніках, сяброўскія эпіграмы, віншаванні, дарчыя надпісы, а таксама малюнкі і аўтографы яго сяброў і знаёмых. У другім выпуску сабраны рабочыя штодзённікі, запісы са шматлікіх паездак па Беларусі, а таксама зацемкі аб пабачаным у падарожжы ў Фінляндыю, Швецыю і Данію. Трэці выпуск «Дзённікаў» – тэксты аб працяглых паездках паэта на Кубу, а таксама ў іншыя краіны. Чацвёрты выпуск «Дзённікаў і запісаў» ахоплівае 1983–1988 гады і адметны нататкамі народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна пра яго ўдзел у працы адной з сесій Генеральнай Асамблеі ААН у складзе дэлегацыі БССР і пра паездку ў далёкія і загадкавыя Індыю і Непал. Пяты выпуск «Дзённікаў» адлюстроўвае новы час нашай гісторыі – ад перабудовы да незалежнасці Беларусі.

На вечарыне 1 сакавіка выступяць складальнiца пяці тамоў «Дзённікаў і запісаў» **Наталля Давыдзенка**, старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў **Барыс Пятровіч**, кіраўнік Беларускага саюза мастакоў, паэт і мастак **Рыгор Сітніца**, паэт, былы калега Рыгора Барадуліна па працы ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» **Леанід Дранько-Майсюк**, а таксама найбліжэйшы сябра апошніх гадоў жыцця Рыгора Барадуліна музыкант **Алесь Камоцкі**.

Падчас прэзентацыі можна будзе набыць кнігі «Дзённікаў і запісаў» са зніжкай. Дарэчы, уваход на мерапрыемства – вольны.

**Галіна РУТ.**

НЕСТАНДАРТ

# «Навошта ты іх тут назбіраў?»

*У Шчучынскім раёне існуе прытулак для бяздомных людзей, які без грошай і дзяржаўнай падтрымкі заснаваў былы фельчар, раней судзімы* ***Аляксей Шчадроў.***

**Натхніла жыццё Святой маці Тэрэзы**

Стваральнік прытулку – асоба загадкавая. Аляксей Шчадроў *(на фота)* робіць уражанне пастаянна задумлівага чалавека. Не ўтойвае, што ў маладосці быў грэшнікам: піў, гуляў, сядзеў у турме за тое, што гандляваў лекамі як наркотыкамі, калі працаваў фельчарам на «хуткай дапамозе». Зараз яму ўсяго 34 гады.

Але, маўляў, усё гэта ў мінулым. Пашэнціла, што адкрыўся шлях да Бога. А на тое, каб стварыць прытулак, яго натхніла найперш жыццё і справы Святой Маці Тэрэзы з Калькуты. Аляксей нават называе сябе манахам ордэна Святой Маці Тэрэзы, праўда, у Гродзенскай дыяцэзіі гэты сан не пацвярджаюць.

Прытулак існуе з 1 снежня 2011 года і месціцца на самым ускраіку вёскі Аляксандраўка побач з лесам. Вёска невялічкая, палова хат стаяць пустыя. У адным доме жыве Аляксей, тут ёсць пакой, дзе можна памаліцца. Зрэшты, усё яго жыллё нечым нагадвае капліцу – паўсюль выявы святых, у прыватнасці Маці Тэрэзы. Гэта святая абсалютны аўтарытэт для Аляксея, ён штораз узгадвае яе ў размовах.

**Без інтэрнэту, але ў цяпле**

У другім доме жывуць пастаяльцы. Як правіла, гэта людзі, якія не маюць жылля, нікога з блізкіх, без дакументаў, хворыя, інваліды альбо тыя, хто вярнуўся з турмы і не мае куды пайсці. Звычайная вясковая хата з кухняй і пакоем, які застаўлены ложкамі, старэнькімі тумбачкамі, ёсць радыё і тэлевізар.

У хаце цёпла, бо грэе печка, але тут няма інтэрнэту. Праўда, ніхто з пастаяльцаў праз гэта не пакутуе. Затое ў былой кладоўцы стаіць ванна, якая так неабходна тым, каго сюды прывозяць. Усё даволі сціпла, але калі параўнаць з тым, што людзі начуюць у піўніцах і на гарышчах, то розніца ўсё ж заўважная.

*«Да нас прыязджаюць людзі з самых розных месцаў, некаторых нямоглых і хворых я прыводжу сам, некаторых проста падбіраем на вуліцы, дастаём з піўніц і гарышчаў,* – распавядае Шчадроў. *– Правіла такое, што ўсё робяць самі пастаяльцы: гатуюць ежу, працуюць у агародзе, даглядаюць козачак і курэй, апякуюцца тымі, хто не можа хадзіць. Адзіная ўмова – у нас нельга ўжываць алкаголь. Дарэчы, некаторыя з гэтым не могуць пагадзіцца і вымушаны пакінуць прытулак».*

Былі часы, калі ў зімовыя месяцы ў прытулку начавалі да 30 чалавек. Нядаўна пастаяльцаў было пяць, але двое днямі з'ехалі, і засталося пакуль толькі трое.

Аляксей распавядае, што многія прыязджаюць у прытулак, каб перазімаваць, адмыцца і пераапрануцца, ведаючы, што тут не бяруць грошы з пастаяльцаў.

*«Як правіла, такія людзі праз два-тры месяцы з'язджаюць. Многія імкнуцца зрабіць дакументы, уладкавацца на працу, змяніць сваё жыццё. Часта праз іх далейшы лёс я нічога і не ведаю».*

Але сярод бяздомных ёсць інваліды і хворыя, тыя, хто мае алкагольную залежнасць і страціў у жыцці ўсё. Шчадроў згадвае пра Валеру з Гродна, якога падабралі на вуліцы: у яго боты ўраслі ў ногі, даваўся адмочваць у ванне...

Цяперашні пастаялец Сяргей, якому за 50, распавядае пра тое, як, запіўшы, завіваюцца за кватэру. Кватэру прадалі, а яго перасялілі ў вясковую хату, якую даваўся кінуць і ісці бадзяжнічаць.

*«Я шмат перажыў, быў у розных прытулках, але мне нідзе не падабалася. Толькі тут з мяне ніхто нічога не патрабаваў»,* – са слязьмі згадвае Сяргей. *– Абмылі, накармілі, далі чыстае адзенне. Заraз вось печку палю ды прыбіраю ў хаце. Мару, каб дапамаглі зрабіць дакументы, бо вельмі хочацца жыць, як людзі...»*




**Улады не падтрымалі**

Шчадроў згадвае сваіх былых пастаяльцаў. Людміла ў 51 год у гэтым прытулку нарэшце адчула сябе чалавекам і вярнулася да нармальнага жыцця. Ганна, якую таксама згубіў алкаголь, змагла знайсці ў сабе сілы змяніцца і цяпер працуе санітаркай у шпіталі. Праўда, распавядае Аляксей і пра Аляксандра, які ўладкаваўся пасля прытулку на працу, але, атрымаўшы першы заробак, адразу запіў.

За 8 гадоў існавання прытулку тут пабывала больш за 200 чалавек. 14 з іх памерлі, але, заўважае Аляксей, *«памерлі як людзі, годна»*. Ён зазначае, што ў яго прытулак трапляюць самыя кінутыя, тыя, ад каго адвярнуліся родныя, блізкія, знаёмыя, адвярнулася само жыццё. *«Але мы павінны любіць любога чалавека, бо ў кожным жыве Ісус Хрыстос»,* – у Шчадрова свая філасофія жыцця.

*«Калі да нас прыязджаюць праверкі, то першае пытанне: навошта ты іх тут назбіраў?* – распавядае Аляксей. *– А я ў адказ: «А чаму вы не патурбаваліся, калі яны ляжалі на вуліцы галодныя, з вошамі, сядзелі ля храмаў і прасілі міласціну?» І, ведаеце, начальства на гэта нічога не адказвае».*

Ад самага пачатку існавання прытулку Аляксей хацеў яго зарэгістраваць, каб дзейнічаць на законных падставах. Свецкія ўлады, паводле яго слоў, адмовілі ў рэгістрацыі. Не захацелі з ім супрацоўнічаць і ў Гродзенскай дыяцэзіі.

Чаму так адбылося, Шчадроў патлумачыць не можа, магчыма, гэта звязана з яго мінулым, але тым не менш прытулак дзейнічае ўжо восем гадоў, і, як бы там ні было, у ім заўсёды ёсць бяздомныя, пра якіх штодня трэба клапаціцца.

*«Мне спачатку старшыня сельсавета казала, каб я сюды нікога не прывозіў, бо, маўляў, псую паказчыкі раёна,* – згадвае Аляксей. *– Але, калі пра прытулак пачалі пісаць СМІ, улады неяк супакоіліся».*

Нядаўна быў выпадак, калі гаспадара прытулку арыштавала міліцыя: яго западозрылі ў крадзяжы грошай, трымалі ў пастарунку. Але пазней адпусцілі, паколькі падазрэнні не пацвердзіліся.

*«Я не крыўдую на міліцыянтаў, бо я хрысціянін і мушу дараваць тым, хто памыляецца»,* – кажа Шчадроў.

Ён таксама больш не прэтэндуе на тое, каб яго прытулак зарэгістравалі, і не разлічвае на падтрымку збоку дзяржавы.

*«У дзяржаўных установах для адзінокіх і састарэлых людзей з усіх, хто там знаходзіцца, бяруць іх пенсіі і за гэта кормяць, лечаць і апранаюць. А я прымаю людзей, у якіх няма ні пенсій, ні заробкаў, наогул нічога. Я імкнуся даць людзям тое, што пасылае нам Бог. А ён пра такіх людзей таксама пакуль ні разу не забыўся».*

**«Існуем за тое, што Бог пасылае»**

Цікаўлюся ў Аляксея: як прытулак існуе ўжо восем гадоў, калі не падтрымліваецца матэрыяльна ні дзяржавай, ні царквой? Сваіх збераженняў Аляксей не мае, паколькі нідзе не працуе.

Шчадроў усміхаецца: гэтым любяць спекуляваць улады – маўляў, грошы атрымлівае ад розных фундацый і траціць на сябе. Але нават па знешнім выглядзе Аляксея відаць, што на сябе ён нічога не траціць: ходзіць у такой жа вопратцы, як і ягоныя пастаяльцы, харчуецца разам з імі. Бываюць сітуацыі, калі заканчваецца ежа, і тады яны… супольна моляцца.

У прытулку зараз жыве маці Аляксея, Таццяна, яна гатуе ежу для пастаяльцаў. Прызнаецца, што яна не змагла б узяць на сябе адказнасць і клопат пра бяздомных людзей.

*«Ён адмывае і прыводзіць у належны стан калек і алкаголікаў, даглядае іх, хворым мяняе падгузнікі і бялізну,* – распавядае спадарыня Таццяна. *– Гэта не кожны чалавек можа зрабіць, я сама нікалі такое не змагла б. А да ўсяго ён робіць гэта для чужых людзей».*

*«Усё гэта ад Бога,* – упэўнены Аляксей. *– Нам дапамагаюць і некаторыя фермеры, і святары, і прадстаўнікі самых розных канфесій, якія ведаюць пра існаванне прытулку, хрысціянская дэмакратыя і звычайныя людзі. Валанцёры прывозяць харчаванне, дапамаглі наладзіць быт у нашых дамах, набылі бойлеры, падключылі гарачую ваду. Наваt за свет і іншыя камунальныя паслугі людзі дапамагаюць разлічыцца».*

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

ГАСТРОЛЬ

## Елена ЯКОВЛЕВА: «Если начинаешь враждовать, то лучше вместе не работать…»



*18 марта в Концертном зале «Минск» пройдет спектакль «Вражда» с участием двух известных российских актрис – Елены Яковлевой и Татьяны Лютаевой, которые уже объехали с ним немало городов.*

Спектакль рассказывает про жизнь двух актрис, которые между собой не имеют ничего общего и даже враждуют. «*Просто их столкнула жизнь. Если бы не обстоятельства, они, наверное, могли бы стать сестрами или подругами*», – говорит **Елена Яковлева**, для которой Минск – не совсем чужой город. Именно здесь актриса снималась в некогда популярном сериале «Каменская» и других телепроектах.

Кстати, сама актриса говорит, что враждовать не любит: «*Если начинаешь враждовать, то лучше вместе не работать. Ни к чему хорошему это не приведет. Я вообще не могу во враждебной атмосфере ни репетировать, ни сниматься. Это состояние разъедает. Начинаю злиться, расстраиваться. Есть люди, которых это стимулирует. Но я не такого склада человек. Я ухожу в другую сторону*».

Есть ли в спектакле автобиографичные моменты?

«*Мы сознательно уходили от таких моментов*, – говорит **Татьяна Лютаева**. – *Решили, что история должна быть универсальной, чтобы каждый человек, сидящий в зале, в ней увидел себя.*

*Мы во время спектакля ни разу не уходим со сцены. И сами делаем перестановки декораций на сцене…*»

Билеты на спектакль, в котором заняты две известные актрисы, стоят от 54 до 124 белорусских рублей.

**Алина ВЕТРОВА.**

ПОДЫУМ

## Мода на беларускае!

*З 4 па 10 сакавіка ў Мінску адбудзецца Belarus Fashion Week Festival – новы сучасны фармат шопінгу без межаў.*

*Падчас шопінг-тыдня можна будзе асабіста пагутарыць з дызайнерамі і заснавальнікамі брэндаў, пачуць каментарыі вядучых стылістаў і іміджмейкераў, а таксама якасна абнавіць гардэроб.*

Сярод удзельнікаў праекта – крамы такіх вядомых брэндаў, як Alena Goretskaya, BALUNOVA Fashion Design Studio, Candy Lady, émse, Historia Naturalis, Lakbi, Le Furle, NAVY, Natalia Korzh, NELVA, Pintel, TON-IN-TON. Таксама ў рамках фэсту калекцыі беларускіх дызайнераў прадставіць крама «Я».

Падчас фестывалю запланаваны адукацыйныя семінары з вядучымі стылістамі і блогерамі, а таксама паказы беларускіх дызайнераў.

«*Мы хочам, каб жыхары нашай краіны выбіралі fashion-тавары «Made in Belarus», якія не саступаюць еўрапейскім аналагам як па стылі, так і па якасці*, – анансуе мерапрыемства **Яніна Ганчарова**, старшыня РГА «Беларуская палата моды», заснавальніца Belarus Fashion Week. – *Мы шмат падарожнічаем, працуем з вядучымі экспертамі ў сферы моды, аналізуем сусветны рынак і смела заяўляем аб актуальнасці калекцый беларускіх брэндаў у свеце. Тому галоўная задача, якую мы ставім перад сабой пры стварэнні Belarus Fashion Week Festival – прыцягнуць увагу пакупнікоў да моднай, стыльнай і актуальнай вопраткі беларускіх fashion-брэндаў*».

**Вера ВІР.**

НОВАЯ КНІГА

## Горват любіць «хакнуць» уласныя стэрэатыпы

Пісьменнік Андрэй Горват не захаваў абстаноўку сакрэтнасці і дасць-такі аўтограф-сесію ў «Акадэмкнізе». А як усё таямніча пачыналася!.. Яго новая кніга «Прэм’ера» прадаецца аж з канца снежня, але без усялякай рэкламы, пра яе выхад чытачы даведаліся толькі ў кнігарні. Але ці многія з нас рэгулярна заходзяць у «Акадэмкнігу», у якой адзінай спачатку была выкладзена на паліцы гэтая аповесць? І чаму наогул папулярны пісьменнік адмовіўся ад прэзентацыі?



Справа сур’ёзная. Аўтар спрабаваў вывесці нованароджаную аповесць з поля ўплыву свайго першага твора – «Радзіва Прудок». Яго папулярнасць аказалася такой вялікай, што цень славы непазбежна ўпаў на наступную літаратурную працу аўтара. Андрэй Горват так і казаў спачатку: «Я не рабіў ніякіх мерапрыемстваў з нагоды выхаду кнігі «Прэм’ера» па вельмі простай прычыне: я люблю яе і хачу абараніць. Ад чаго і каго абараніць – дакладна не ведаю. Але думаю, што ад «Радзіва».

Аднак любоў і кашаль не ўтоіш, пажартаваў пісьменнік. І раптам пагадзіўся на аўтограф-сесію «Прэм’еры»! Нядрэнны маркетынгавы ход... Але Горват ізноў настойвае: ніякіх прадуманых схем у яго не было. Проста ён не хацеў падманваць людзей, так як «Прэм’ера» зусім для іншага чытача.

Пакуль выдавецтва надрукавала ўсяго 1000 асобнікаў «Прэм’еры». Што ж, кніга «Радзіва Прудок» пачыналася з яшчэ меншага накладу, а потым тыраж дайшоў да 8000. Для першай кнігі аўтара гэта сапраўды шмат. Ну а заўтра вечарам у «Акадэмкнізе» Андрэй Горват будзе раздаваць аўтографы на сваёй новай аповесці. Але інтрыга захоўваецца: ці надзене Андрэй жоўтыя штаны? У адным з інтэрв’ю ён прызнаўся, што цярпець не можа жоўты колер, але спецыяльна купіў рэч з такім колерам, каб «хакнуць» уласныя стэрэатыпы.

**Вікторыя ДРОЗД.**

БУДЗЬ ЗДАРОЎ!

## Як загартаваць арганізм

*Парады дае юрыст Гары Паганяйла, які не першы год займаецца загартоўваннем.*



Многія лічаць неабходным абавязкова заскочыць у ледзяную палонку на Вадохрышча, але не ўсе разумеюць, што арганізм да гэтага трэба падрыхтаваць. І пачынаць трэба менавіта зараз…

– Загартоўваннем я займаюся з 19 гадоў, – кажа Гары Пятровіч, які не так даўно адзначыў 75-гадовы юбілей. – Хаця і да гэтага не баяўся халоднай вады. Напрыклад, калі яшчэ знаходзіўся ў дзіцячым доме, купальны сезон у нас пачынаўся 1 красавіка. Тэмпература вады была – каля 10–12 градусаў. І тым не менш купаліся…

Увогуле заўсёды стараюся акунуцца ў палонку альбо ў вадаём, які побач. Аднойчы на Каляды быў у Філадэльфіі, таму выкупаўся ў акіяне, а калі знаходзіўся ў лютым у Даніі, то паплаваў у моры. А падчас семінара ў літоўскім Тракаі напрыканцы лістапада вырашыў залезці ў возера. Я не баюся тэмпературных перападаў, да гэтага трэба быць проста псіхалагічна падрыхтаваным. Калі ў вас выпрацавана стрэсаўстойлівасць да такога кшталту выпрабаванняў і вы фізічна здаровы чалавек, то гэтым можна захапляцца.

**– З чаго трэба пачынаць?**

– Пачынайце, як я ўжо казаў, з псіхалагічнай падрыхтоўкі і купання ў той перыяд, калі вада яшчэ цёплая. Паступова трэба прызвычайвацца да зніжэння тэмпературы вады. Не варта прапускаць водныя працэдуры. Яны павінны стаць рэгулярнымі, бо калі тыдзень не пазаймаешся, то псіхалагічна будзе складаней ізноў усё пачынаць з нуля. У чалавека проста можа падарвацца вера ў тое, што ты робіш добрую справу.

**– Адны кажуць, што загартоўванне – гэта толькі для здароўя, іншыя адзначаюць, што ў маржаванні таксама ёсць некаторыя небяспечныя нюансы…**

– Думаю, ніхто яшчэ не вывеў дакладнай залежнасці фізічнага здароўя ад маржавання, як і не прапанаваў стопрацэнтнай прышчэпкі ад усіх хвароб. Проста, калі вы акунаеце цела ў халодную ваду, ваш арганізм мабілізуецца, ідзе прыліў крыві да мышцаў, і яны ўзбагачаюцца кіслародам. І гэта ўжо добра для фізічнага стану чалавека.

Але ў той жа час трэба разумець: калі, напрыклад, нехта мае хранічныя хваробы сэрца, то ў такім выпадку шкодна праводзіць такія стрэсавыя эксперыменты. І памятайце: усё добра ў меру.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

КОРРЕСПОНДЕНТ ВЫЕХАЛ НА МЕСТО

## Собачий рай, или Конфликт города с деревней

Люди занимаются благотворительностью, добрым делом, но они – люди и, желая козырнуть своим благородством и материальными возможностями, жестко ссорятся. Могут даже и в лицо дать. Люди вообще часто мучают ближнего под предлогом того, что желают всему миру добра.

На волонтера из Марьиной Горки Юрия Викторовича Валько ополчились минские защитники собак. Они однажды приехали к его питомцам с кормом, с гостинцами. Думали, что желанные гости, а хозяин их к своим животным не пустил. А вот стал на дороге, и всё. Хотя нет, причину отказа все-таки попытался объяснить, но его не услышали, не захотели понять. И потом, согласитесь, помощь помощью, но нужно еще и деликатность иметь. Особенно в вопросах благотворительности.

Почти десять лет Юрий Валько занимается бездомными собаками. С 2013 года – официально. Он директор учреждения по защите животных «Солнце для всех». Я улыбаюсь, когда читаю эти слова: по-моему, в душе Юрий Викторович такой романтик!.. Потому что на самом деле это не название организации, а прекрасный жизненный девиз: солнце – для всех. Только где его наберешься – солнца, тепла, сочувствия, благоденствия для всех домашних животных, брошенных на произвол судьбы?

Для меня это вопрос, а для Валько – побуждение к действию. Он человек с высшим образованием, работал в МЧС, потом преподавал в средней школе, но в какой-то момент сделал окончательный выбор: помощь бездомным собакам. Это его призвание. Были косые взгляды соседей, некоторая настороженность властей, подозреваю, что и конфликты в семье тоже случались: постоянной зарплаты ведь нет, живут и собаки, и их защитник на людские пожертвования. Но что может остановить человека, который верит в свою миссию? Только не скромный доход.

Я, правда, придерживаюсь более приземленных взглядов, а с домашними животными вообще личного дела не имела никогда. И Юрий Викторович это сразу вычислил, хотя бы по тому, что я его назвала «собачником». Это, сказал, звучит неправильно, грубо. Лучше – опекун. Ладно. Сути дела это не меняет: защищать бездомных животных, даже если ты имеешь официальный статус, – сложное, хлопотное и порой конфликтное дело. Тем более когда у тебя не две-три собачки в городской квартире на диване для красоты и душевной услады, а полторы сотни подопечных ждут каждый день еды и других положенных благ.

Во-первых, где их разместить? Естественно, за городом. Валько очень повезло, что за Марьиной Горкой на бывшей территории воинского хоздвора (когда-то там была свиноферма) полковники, то есть воинское начальство, разрешили ему устроить «собачий рай». А то представьте себе, что стая из 150 животных обитает в маленьком городе рядом с людьми. Да кто выдержит такое соседство при всей любви к животным?

Хотя именно мы, люди, и виновны в том, что собаки становятся бродячими, плодятся, сбиваются в своры и (самый скверный вариант) дичают. И тогда свой, не свой – на дороге не стой. Кинологи считают, что животное впадет в дикость, как только оно достаточно проголодается. Уже через 10 дней уличной жизни голод превратит его в хищника. Собака прибьется к стае, и место человека займет вожак. И не остается другого выхода, как жестко расправиться с животными. Но по большому счету никто не хочет доводить дело до убийства. Все-таки современный человек при всей своей роботизации не утратил сочувствия к животным.

Юрий Валько встретил меня в Марьиной Горке на машине, на заднем сиденье которой резвились два щенка. Это последний «улов» зоозащитника. Позвонила неизвестная бабушка: «Забирай, Христа ради, кто-то бросил дворняжку в сугроб. Замерзнет ведь. А я не возьму, моей пенсии на двоих не хватит…» Вторую «дворянку» отдали Юрию сотрудники ЖКХ. Бывает, и районные МЧСники подбирают бродяжек и Юрию отдают. Как «скорая помощь», Валько прибывает по вызову. Салон его автомобиля специально для этого оборудован сеткой, разделяющей пространство на две части, иначе от собачьей радости верхнюю одежду никому не уберечь. Сам Юрий Васильевич, конечно, всегда ходит в грубой спецовке, но для встречи с корреспондентом он надел выходные брюки и не удержался, чтобы не посмеяться над ситуацией: «Новая одежда не снашивается, некуда мне в ней выходить. Вот разве что вас встретить».

Как проходят будни зоозащитника? Ежедневно с раннего утра он едет на мясокомбинат, на бойню, чтобы привезти оттуда своим 150 питомцам триста килограммов еды. В основном это говяжьи головы и желудки. Без изысков, но сытно.

– Не очень аппетитно пахнет, согласен, но полезно для животных. Я рублю головы, режу желудок. Бросаю еду прямо на землю, вижу сразу всю стаю. Кто послабее, тому бросаю отдельно, и добавку получает животное, если потребует. У меня сыты все, но в пределах разумного. Да, я веду себя как мужик, как хозяин, я не накрываю им поляну: «На тебе, собачка, сладкий кусочек в мисочку!» У меня нет таких условий, нет средств на помощника. Я один. А минские волонтеры хотят, чтоб по-домашнему: «Сю-сю-сю – сегодня у нас на обед кролик». Хорошо, если на содержание животных достаточно средств. В Европе в приютах – доллар в день на собаку. Но у меня в учреждении – 500–600 рублей в месяц на всю стаю из 150 голов. В этой сумме, кстати, и моя зарплата тоже. А столица хочет, чтобы я их еще и шампунем мыл?

Вот тут-то и зародыш разногласий, так сказать, суть этого конфликта города с деревней. Зоозащитники из Минска считают, что собаки Валько содержатся неправильно, слишком жестко. А у Юрия свои резоны, их диктует его реальное материальное положение и просто опыт. По этому поводу вспомнилась ситуация из личного багажа. Я иногда бываю на одном хуторе в Вилейском районе, там живут прекрасные хозяева – Иван и Нина Маркевичи. Они ведут настоящее крестьянское хозяйство, зажиточные люди, потому что работящие, все у них есть и собака, естественно, тоже. Кормят ее довольно скупо, держат во дворе строго на цепи, она имеет суровый нрав, и это Маркевичей устраивает, потому что у собаки есть обязанности – стеречь дом и ходить с хозяином на охоту. Собака у крестьян не для красоты и тем более не для демонстрации своей превратно понимаемой цивилизованности.

Однажды я была свидетелем того, как Нина, лишь немного размочив в миске давно высохший хлеб, отдала его своему псу. Тот жадно съел все в мгновение ока и преданно уставился на хозяйку. Я удивилась: он ест у вас хлеб?.. Тут уж хозяйка посмотрела на меня, будто я свалилась с Луны: «*Як гэта: мы хлеб ядзім, а собаку не падабаецца?! Ага табе!*» В общем, на хуторе я всегда учусь уму-разуму.



Да, Юрий ведет себя с собаками в каком-то смысле сурово. Но честно. Всем им он делает прививки, дает таблетки от глистов и клещей, стерилизует, выращивает отдельно щенков, которых не устают подбрасывать ему земляки. Ведь выбрасывают щенков по-прежнему без снисхождения! Да, Валько держит большинство подопечных на цепи. Но и выгуливает свой немаленький отряд, дает возможность животным хорошенько побегать на воле: для этого есть огромная территория в несколько гектаров, где собаки накручивают километры. Собаковед Валько считает, что создал настоящий рай. Но рай все-таки надо огородить забором, собаки ведь могут убежать, подумала я вслух. И Валько, как бывший учитель, объяснил положение дел на доступном, как посчитал, для городского жителя примере:

– А вы забудете дорогу в ресторан, где вас однажды хорошо покормили?

В общем, его «ресторану» собаки не изменяют никогда.

Остается проблема с забором. Юрий Викторович собирает на него средства. Пока дело идет туго, есть только несколько метров сетки. Впрочем, столбы по периметру уже стоят. Средства подкинули те самые столичные волонтеры, которые потом приехали к Валько наводить свой порядок.

Типичная ситуация: вроде берешь деньги, отданные в дар, но все равно платишь – ограничением своей свободы. Благотворители из Минска посчитали, что отныне тоже имеют права на учреждение «Солнце для всех». И решили «навести порядок». Конечно, право помогать животным, сопереживать их судьбе никто ни у кого не отнимает, это дело сугубо личное, нравственный выбор каждого. А вот отвечает за свое учреждение все равно только Ю.В.Валько, это надо отчетливо понимать. Он официальный руководитель «Солнца», и потому все-таки он в Марьиной Горке по части собак – главный. И к нему надо прислушиваться, а не идти рогом с тремя ведрами каши для полторы сотни собак и при этом считать, что спасаешь Вселенную.

Но Юрий Викторович не хочет войны. Без добрых людей – из столицы, из-за границы (есть у него и такие подписчики) – в общем, без посторонней помощи и поддержки ему с собаками не прожить. Он это ясно осознает и корону на голове не носит. Он обратился в редакцию, чтобы «Народная Воля» помогла донести его призыв: «Мы вас ждем, волонтеры. Мы вас любим. Но примите во внимание: я один обслуживаю сто пятьдесят собак. Я живу в провинции, вы – в столице. Я помогаю всем, кого подберу в своем районе, вы – выборочно. Я каждый день у собак на службе, вы – когда есть свободное время. У нас разные условия, разные доходы и подходы. Посоветуйтесь, прежде чем навязывать свои порядки».

Но услышать и понять другого – это ведь самое трудное. Даже если открываешь свой личный кошелек для добра.

**Елена МОЛОЧКО.**

*Пуховичский район.*

АНОНС




**На вокладцы «Нашай гісторыі» №2 – Януш Радзівіл. Гэта быў чалавек, які бачыў нашу краіну ў саюзе не з Расіяй ці Польшчай, а са Швецыяй. Але гаворка ў нумары не пра гэта, а пра загадку яго партрэта.**

Іншая вялікая тэма нумара – Юрый Андропаў, адзін з апошніх кіраўнікоў СССР. «Жыццё, Юра, гэта мокрая палуба»: чаму Андропаў не ўратаваў СССР.

Іх бацькі былі знакавымі беларускімі дзеячамі. А як склалася жыццё дзяцей? Многія факты вас здзівяць.

Нашчадкі прусаў: дзівосная гісторыя выжывання балцкага анклава каля Ліды.

Барыс Беразоўскі: геніяльны маніпулятар.

Майсей Гутман: яўрэй, што стаяў ля вытокаў БНР. Гісторык Уладзімір Ляхоўскі раскапаў звесткі пра яго лёс.

Алеся Луцкевіч пра дзеда Антона: «Я чытала перапіску спецслужбаў і разумела, што нас увогуле не павінна было быць».

Дзіцячыя гульні 1960-х, 70-х і 80-х.

А таксама: палтэргейст у Барысаве – з'ява, зафіксаваная міліцыяй, якая дагэтуль не атрымала фізічнага тлумачэння.

**+ Новыя коміксы.**

**Пытайцеся ў шапіках, кнігарнях і ў крамах!**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## Аляксандра РАМАНОЎСКАЯ:

# «Мне б з «хвастамі» яшчэ разабрацца...»

*Чэмпіёнка свету распавяла «Народнай Волі», чаму няўдала выступіла на дамашніх спаборніцтвах.*

У мінулыя выхадныя ў Раўбічах прайшоў этап Кубка свету па фрыстайле. Парадаваў алімпійскі чэмпіён **Антон Кушнір,** які заваяваў серабро і даказаў: ёсць яшчэ порах у парахаўніцах!

*«Пасля Гульняў у Пхёнчхане прыходзілі розныя думкі, але задаволены, што мы працягнулі працу і вытрымалі,* – прыводзіць словы Антона TUT.by. – *А ў сярэдзіне сезона хацелі заканчваць. Доктар раіў легчы ў бальніцу, таму што спіну ў мяне за тыдзень прастрэліла двойчы. У такім стане скакаў на «свеце»... Зараз хачу дакатаць сезон. Былі думкі, каб легчы ў бальніцу, але гэта, напэўна, не зусім цікава».*

Безумоўна, чакалі беларускія балельшчыкі медалёў і ад дзяўчат, тым больш што напярэдадні Аляксандра Раманоўская спачатку выйграла чэмпіянат свету, а затым атрымала перамогу на этапе Кубка свету ў Маскве. На жаль, не ўсё тое, на што разлічваем, здараецца.



У Раўбічах ніхто з чатырох беларускіх фрыстайлістак нават не выйшаў у фінал. У кваліфікацыі **Яна Ярмашэвіч** заняла 18-е месца, **Саша Раманоўская** – 19-е, **Вольга Хромава** – 20-е і **Сняжана Драбянкова** – 24-е.

– Фрыстайл – гэта такі від спорту, дзе нечаканасці могуць цябе падпільноўваць кожны дзень, – кажа **Аляксандра Раманоўская**. – Яшчэ ўчора ты – чэмпіён свету, а сёння – 19-е месца падчас кваліфікацыі. Увогуле, вельмі няшмат фрыстайлістаў, якія дэманструюць стабільна высокія вынікі. І вось мне таксама дома не пашэнціла.

**– Можа быць, надвор'е «дапамагло» такому выніку?**

– Калі казаць пра суб'ектыўныя фактары, то схілы былі падрыхтаваны на ўзроўні, а вось з надвор'ем і на самай справе магло быць лепш. За дзень да спаборніцтваў з-за ветру наогул адмянілі трэніроўку. У дзень спаборніцтваў вецер быў меншы, але ж усё роўна быў, падчас скачкоў даводзілася няпроста.

**– Бацькі прыязджалі ў Раўбічы падтрымаць дачку?**

– Не паспелі. Яны збіраліся прыехаць на фінальныя спаборніцтвы, але, на жаль, я туды нават не трапіла.

**– Ведаю, што акрамя спорту вы працягваеце навучанне ва Універсітэце фізкультуры. Як там поспехі?**

– У гэтым годзе пастараюся скончыць універсітэт, і зараз задача адна – мне б з «хвастамі» разабрацца. Ёсць запазычанасці па зімняй сесіі, а хутка ўжо і летняя пачнецца. Прыйдзецца ў адпачынку папрацаваць. А зараз пакуль не да вучобы – ужо ў бліжэйшыя дні з'язджаю на Сусветную ўніверсіяду.

**Алесь СІВЫ.**

ШАХМАТЫ

## Для нашых чытачоў



Сваю новую задачу прапануе ***Мікалай Быкаў*** з Баранавіцкага раёна.

**Белыя:** Крh5, Фа7, Лd5, Сg4, Сh6, Ке3 (6).

**Чорныя:** Кре4, Лс3, пп. е5, f4 (4).

**Мат у 2 хады.**

Дасылайце рашэнні на адрас рэдакцыі ***(220030 г.Мінск, вул. Энгельса, 34а)*** або на электронны адрас: ***vadim_ne67@mail.ru.***

## Этап Кубка свету

Напрыканцы мінулага года ў Мінску прайшоў XI Кубак «Альбіна» – міжнародны турнір па рашэнні кампазіцый. Сярод 22 удзельнікаў з Беларусі, Расіі, Польшчы, Украіны і Літвы былі тры міжнародныя гросмайстры, пяць міжнародных майстроў, два майстры ФІДЭ. Прызавую тройку склалі ***Даніла Паўлаў, Анатоль Мукасееў*** і ***Аляксей Папоў*** (усе з Расіі). Лепшы вынік сярод беларусаў паказаў ***Аляксандр Булаўка*** – 9-е месца. У асобных намінацыях (іх было шэсць) перамаглі ***Аляксей Папоў*** (Расія), ***Відмантас Саткус*** (Літва), ***Алег Первакоў*** (Расія), ***Анатоль Мукасееў*** (Расія), ***Валерый Копыл*** (Украіна) і ***Аляксандр Булаўка*** (Беларусь).

## У новым фармаце

Фінішавала IX каманднае першынство Беларусі па складанні кампазіцый. Яно праводзілася ў фармаце матча дзвюх каманд: «Усход» (Віцебская, Гомельская, Магілёўская і Мінская вобласці) – «Захад» (Брэсцкая і Гродзенская вобласці, горад Мінск). Агульны лік – 61:48 на карысць «Усходу». На рахунку каманды перамогі ў раздзелах двухходовак, эцюдаў, задач на зваротны мат і казачных задач. «Захад» выйграў раздзел шматходовак, а ў трохходоўках і кааператыўных матах зафіксаваны нічыі.

## У паўкроку ад «бронзы»

Зборная Беларусі падзяліла з Кітаем 3–4-е месцы на сусветнай юнацкай Алімпіядзе (да 16 гадоў), што праходзіла ў турэцкай Конні. Па дадатковых паказчыках нашы шахматысты чацвёртыя. Яны выйгралі шэсць матчаў, два прайгралі, адзін звялі ўнічыю. За зборную выступалі ***Вячаслаў Зарубіцкі, Вольга Бадэлька. Дзяніс Лазавік, Максім Царук*** і ***Арцём Сіняўскі***.

## На берагах Дняпра

У Оршы адбыўся традыцыйны міжнародны шахматны фестываль, праграма якога складалася з дзясятка турніраў. У «адкрытым турніры» (82 удзельнікі) прызёрамі сталі гросмайстры ***Аляксандр Маскаленка*** (Расія), ***Аляксей Фёдараў*** (Беларусь) і міжнародны майстар ***Вячаслаў Зарубіцкі*** (Беларусь). У турніры «В» (25 удзельнікаў) перамог майстар ФІДЭ з Беларусі ***Юрый Борсук***. У кругавым турніры з нормай міжнароднага майстра 1–2-е месцы падзялілі ***Дзмітрый Навіцкі*** і ***Вольга Бадэлька*** (Беларусь), трэці быў ***Арцём Гогалеў*** (Расія). Турнір па хуткіх шахматах (116 гульцоў) завяршыўся перамогай Арцёма Гогалева, а другі тут быў ***Сяргей Міхайлоўскі*** (Беларусь). У турніры-гандыкапе (з форай па часе для слабейшых; 63 удзельнікі) перамог майстар ФІДЭ ***Валянцін Уласаў*** (Расія).

Прыводзім дзве партыі, згуляныя ў Оршы.

***Алег Шкалаў – Міхаіл Спіжарны***

1.с4 Кf6 2.Кс3 с6 3.е4 d5 4.ed cd 5.d4 g6 6.Кf3 Сg7 7.Фа4+ Кbd7 8.с5 0-0 9.Сf4 Кh5 10.Сg5 h6 11.Се3 е5 12.de К:е5 13.К:е5 С:е5 14.Лd1 Се6 15.Се2 Кg7 16.С:h6 Ле8 17.Сb5 Кf5 18.Сf4 Фс7 19.g3 С:f4 20.С:е8 Се5 21.К:d5 Ф:с5 22.Фb5 Фс8 23.Фе2 С:d5 24.Ф:е5 С:h1 25.Сd7 Фс2 26.С:f5 Ф:f5 27.Фе7 Фе4+, 0:1.

***Максім Паршын – Юрый Ціханаў***

1.d4 d5 2.Кf3 с6 3.Сg5 Фb6 4.Фс1 Сf5 5.Кbd2 Кd7 6.е3 Кgf6 7.Се2 е6 8.0-0 h6 9.Сh4 Се7 10.Ке5 К:е5 11.de Кd7 12.Сg3 h5 13.h3 g5 14.Кf3 h4 15.Сh2 g4 16.Кd4 gh 17.К:f5 hg 18.Кg7+ Крf8 19.К:е6+ fe 20.Кр:g2 Крf7 21.f4 Кс5 22.Сd3 Лаg8+ 23.Крh1 h3 24.f5 К:d3 25.cd Лg2 26.fe+ Кр:е6 27.е4 Ф:b2 28.Фf4 Л:h2+ 29.Ф:h2 Ф:h2+ 30.Кр:h2 de 31.de Кр:е5 32.Лf7 Кре6 33.Лff1 Кре5 34.Лf7 Кре6 35.Лаf1 с5 36.е5 с4 37.Л7f4 Лс8 38.а4 с3 39.Лс1 Сg5 40.Крg3 С:f4+ 41.Кр:f4 с2, 0:1.

## Праверце адказы

Задача М.Крупніка, змешчаная ў «Народнай Волі» 5 лютага, рашаецца: **1.Фс6.**

Першымі правільна адказалі ***Міхаіл Малееў, Васіль Жуковіч, Ігар Ананіч, Віктар Жук***.

**Вадзім ЖЫЛКО.**

УВАГА!

# Конкурс мастацкіх работ тых, хто знаходзіцца ў месцах несвабоды

*Праваабаронцамі абвешчаны конкурс мастацкіх работ зняволеных папраўчых установ і іншых месцаў несвабоды.*

Да ўдзелу ў конкурсе запрашаюцца зняволеныя папраўчых установ і іншых месцаў несвабоды – ЛПП, установ адукацыі і аховы здароўя закрытага тыпу.

Конкурс мае выключна некамерцыйны характар выкарыстання перададзеных работ; перададзеныя работы аўтарам, як правіла, не вяртаюцца.

**Конкурс праводзіцца ў некалькі этапаў:**

– 14 студзеня 2019 года – абвяшчэнне пачатку конкурсу;

– да 2 красавіка 2019 года – збор прац на конкурс;

– 15 красавіка 2019 года – адкрыццё выставы перададзеных работ і абвяшчэнне пераможцы конкурсу.

Работы будуць выстаўлены з 15 красавіка 2019 года на працягу як мінімум аднаго месяца ў памяшканні кансультацыйна-інфармацыйнай установы па папулярызацыі прававой культуры «Тэрыторыя правоў»; выстава будзе адкрыта для бясплатнага наведвання. У далейшым работы, якія паступілі на конкурс, будуць выкарыстаны ў выставах на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь і за мяжой.

Працы могуць быць выкананы ў любой тэхніцы выяўленчага мастацтва, у любым памеры і па любой тэматыцы.

Да прац можа прыкладацца тлумачальны тэкст ці тэкст-разважанне або гісторыя аўтара.

Да ўдзелу ў конкурсе не дапускаюцца творы, якія парушаюць нормы маралі або права, якія распальваюць нянавісць або варожасць па якой-небудзь прыкмеце, а таксама заклікаюць да гвалтоўных дзеянняў.

Пераможцаў конкурсу вызначае журы. **Тром пераможцам прысуджаюцца два прызы па 100 рублёў і галоўны прыз – 200 рублёў.**

Прызы пералічваюцца на рахунак пераможцаў паштовым пераводам.



***Звяртацца на адрас: 220012 г.Мінск, вул.Мяржынскага, 8 – 26. Сапелка Паўлу Васільевічу.***

***Тэлефон для даведак: (017) 394-63-11.***

**Са згоды арганізатара на конкурс можа быць перададзена праца на ўмовах зваротнасці.*

*P.S. На жаль, паштовае аддзяленне не выдае заказныя лісты без канкрэтнага адрасата, таму абавязкова трэба пазначыць прозвішча ініцыятара конкурсу Паўла Сапелкі.*

НУ І НУ!

# Біятлон на... трактарах

*Незвычайныя спаборніцтвы ўпершыню арганізавалі ў Зэльвенскім раёне.*

У турніры ўзялі ўдзел прадстаўнікі шасці гаспадарак раёна. Спаборніцтвы насілі тэарэтычны і практычны характар. Спачатку механізатараў праверылі на веданне правілаў дарожнага руху, і, дарэчы, правільныя адказы на ўсе 10 пытанняў даў толькі адзін удзельнік спаборніцтваў.

Што тычыцца практычнай часткі спаборніцтваў, то, паводле ўмоў турніру, удзельнікі паказвалі сваё майстэрства ў тым, хто лепей зробіць дыяганальную паркоўку, заедзе заднім ходам у гараж, пераадолее эстакаду. І найбольш відовішчная частка спаборніцтваў – тры колы на хуткасць па тэрыторыі цэнтра павышэння кваліфікацыі рабочых сельскай гаспадаркі райвыканкама з прыпынкамі на стральбу.




Лепшы вынік у біятлоннай гонцы на трактары «Беларус» – 3 хвіліны і 10 секунд.

Спаборніцтвы па біятлоне на трактары праводзіліся 23 лютага і былі прысвечаны Дню абаронцаў Айчыны.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

КРЫЖАВАНКА

# «Адна ў чалавека родная маці»

**Па гарызанталі:** 3.Паказная зухаватасць, смеласць. 6.«Водар свята ў лясах, //Адступаецца ...» – з верша Я.Янішчыц «Вясновае». 8.Футравая абшыўка па краях адзення, абутку. 9.Люты вады падпусціць, а ... падбярэ (прык.). 10.Прыняцце на работу. 11.Адрывісты стук. 12.«Ты пагладзь мяне, мая ..., //Ласкава, ціхенька, хоць у сне» – з верша Л.Геніюш «Маці». 13.Калі мужчына агонь, дык жанчына – ... (румынская прык.). 15.Службовы разрад у служачых. 16.Гаспадар з хаты, а да жонкі ... багаты (прык.). 18.Воклiч з пераможнай інтанацыяй. 20.Мужчынскае імя. 21.«А ... даганяла зіму; //Заяц скочыў у лужу блакіту» – з верша Р.Барадуліна «Уцякала зіма ад вясны». 23.Салодкая страва са звараных ягад, садавіны. 25.Слабы вецер у прыморскіх рэгіёнах. 26.«... маці – увасабленне пяшчоты» (В.Гюго). 27.Тое, што і каласы. 29.«Я надзену плацце бела //І пайду з ім пад ... . //Ссохну, звяну, як былінка, //І гульбе маёй канец» (прыпеўка). 30. ..., або Калая – беларуская багіня цнатлівасці. 31.Адна ў чалавека родная маці, адна ў яго і ... (прык.).

**Па вертыкалі:** 1.«Біла ж мяне ... //Канапляным путам. // – Не хадзі ты, дачушачка, //З гэтым баламутам» (прыпеўка). 2.«Чырвоная ... //На купінцы спее. //Адзін мяне пацалуе, //А чатыры млеюць» (прыпеўка). 3.Самы нізкі мужчынскі голас. 4.Чалавек, які вядзе аскетычны лад жыцця. 5.Птушка радуецца вясне, а ... маці (прык.). 6.Без маці і ... не грэе (прык.). 7.Нуду лечыць ... (прык.). 14.Каманда сабакам на паляванні. 16.Эстрадны жанр. 17.На чужой старане і жук мяса, і старая баба – ... (прык.). 19.Грэчаская багіня Зямлі. 21.Нізкая вечназялёная куставая расліна. 22.Імя чарадзейкі ў паэме А.Пушкіна «Руслан і Людміла ». 23.Каса – дзявочая ... (прык.). 24.«Самыя лепшыя ... – матчыны» – з верша М.Скоблы «Самыя пяшчотныя рукі – матчыны». 28.Адам на ... звальвае, а ... на Змея паказвае (прык.).



## Адказы на крыжаванку

**Па гарызанталі:** 3.Бравада. 6.Снег. 8.Апуха. 9.Сакавік. 10.Найм. 11.Удар. 12.Матуля. 13.Пажар. 15.Чын. 16.Кум. 18.Ага! 20.Ніл. 21.Вясна. 23.Кампот. 25.Брыз. 26.Рукі. 27.Калоссе. 29.Вянец. 30.Сева. 31.Радзіма.

**Па вертыкалі:** 1.Матулечка. 2.Журавінка. 3.Бас. 4.Аскет. 5.Дзіця. 6.Сонца. 7.Гумар. 14.Ату! 16.Канферанс. 17.Маладзіца. 19.Гея. 21.Верас. 22.Наіна. 23.Краса. 24.Песні. 28.Ева.

**Лявон ЦЕЛЕШ, г.Дзяржынск.**

Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info
Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік і галоўны рэдактар
Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ




Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 25.02.2019 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 23 060 экз. Заказ № 528.

9 772071 964000 19016